Г. Л. Мураўёва, М. А. Урбан

# МАТЭМАТЫКА

Вучэбны дапаможнік для **2** класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

У дзвюх частках

Частка 2

*Дапушчана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2012

УДК 51(075.2=161.3)
ББК 22.1я71
М91

Р э ц э н з е н т ы:

дац. кафедры дашкольнай і пачатковай адукацыі ўстановы адукацыі «Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт імя П. М. Машэрава», канд. пед. навук, дац. *З. К. Ляўчук*;
метадычнае аб'яднанне настаўнікаў пачатковых класаў дзяржаўнай установы адукацыі «Пачатковая агульнаадукацыйная школа № 39 г. Мінска» (нам. дырэктара па вучэбнай рабоце *А. Г. Волкава*)

## Умоўныя абазначэнні:

— новы матэрыял;

— паўтарэнне вывучанага;

— дружныя задачы;

— заданне на кемлівасць;

— адкажы на пытанне, выканай заданне;

— выканай дома;

— прачытай у раздзеле «Гэта цікава!»

**ISBN 978-985-559-076-8 (ч. 2)**
**ISBN 978-985-559-074-4**

# ЗМЕСТ





# Пазатаблічнае складанне і адніманне

**!** Як рознымі спосабамі вылічыць, колькі ўсяго птушак?



$(5 + 3) + 4 = ?$

$8 + 4 = 12$

$5 + (3 + 4) = ?$

$5 + 7 = 12$

$5 + 3 + 4$

$(5 + 3) + 4$ $\quad$ $5 + (3 + 4)$

Пры складанні можна два суседнія складаемыя замяніць іх сумай.

**1.** Растлумач розныя спосабы складання лікаў.

$6 + 4 + 5$ $\quad$ $10 + 20 + 30$

$5 + 2 + 8$ $\quad$ $30 + 30 + 40$

**2.** Складзі выразы з дужкамі. Знайдзі іх значэнні.

12 – : 1 + 5; 15 – 9

15 – 9; 2 + 7 : + 7

**3.** Запішы ўсе двухзначныя лікі, сума лічбаў якіх роўная 5.

**4.** Знайдзі даўжыню адрэзка. Начарці адрэзак, даўжыня якога на 2 см большая.




**5.** Было 80 м тканіны. Спачатку адрэзалі 20 м тканіны, а потым яшчэ столькі ж метраў. Колькі метраў тканіны засталося?

**6.** Дапоўні ўмову. Рашы задачу.
Пашылі 60 дзіцячых паліто. Колькі пашылі жаночых паліто?

**7.** Падумай, колькі зялёных адрэзкаў змесціцца ўздоўж аднаго сіняга. Адрэж палоску паперы, роўную даўжыні зялёнага адрэзка, і правер сваё меркаванне.



? Як скласці лікі 50, 20 і 10 рознымі спосабамі?

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.
100 – 1 (72 – 2) + 4 5 + 5 + 5 + 5

**2.** Міле 10 гадоў. Колькі гадоў Дашы, калі яна на 10 гадоў старэйшая за Мілу?

!

**Перамяшчальная** ўласцівасць складання:
6 + 2 = 2 + 6

**Спалучальная** ўласцівасць складання:
6 + 2 + 4 = (6 + 2) + 4 = 6 + (2 + 4)

Ведаючы гэтыя **уласцівасці** складання, можна выконваць вылічэнні рознымі спосабамі.

2 + 9 + 8 + 1 = ?

| Спосаб 1 | Спосаб 2 |
|---|---|
| Складваем лікі па парадку: | Складваем лікі зручным спосабам: |
| 2 + 9 + 8 + 1 = ? | 2 + 8 + 9 + 1 = ? |
| 11 + 8 + 1 = ? | (2 + 8) + (9 + 1) = ? |
| 19 + 1 = 20 | 10 + 10 = 20 |

**1.** Растлумач розныя спосабы вылічэнняў.

| | | |
|---|---|---|
| 3 + 6 + 7 | 5 + 1 + 5 + 4 | 2 + 40 + 8 |
| 8 + 5 + 2 | 8 + 4 + 2 + 6 | 9 + 50 + 11 |

**2.** Вылічы зручным спосабам па ўзоры.

(20 + 19) + 1 = 40
(19 + 1 = 20)

18 + (30 + 2)
(3 + 90) + 7
16 + (20 + 4)
(40 + 7) + 30

**3.** Разгледзь розныя спосабы запісу рашэння задачы.
У буфеце было 20 бісквітных піржных і 30 заварных. Прадалі 10 піржных. Колькі піржных засталося?

1) $20 + 30 = 50$ (п.)
2) $50 - 10 = 40$ (п.)

$(20 + 30) - 10 = 40$ (п.)

**4.** На катку было 10 хлопчыкаў і 8 дзяўчынак. Пайшло 5 дзяцей. Колькі дзяцей засталося на катку?

**5.** Растлумач выразы.
Аўтобус у першы дзень быў у дарозе 10 гадзін, у другі дзень – 8 гадзін, а ў трэці дзень – яшчэ 10 гадзін.

$10 + 8$  $10 - 8$  $10 + 8 + 10$

**6.** Параўнай.

6 дм ? 60 см  50 см ? 5 м
54 см ? 5 дм 3 см  9 дм ? 9 м

**?** Растлумач, як можна знайсці значэнне выразу.

$2 + 30 + 1$

**1.** Вылічы зручным спосабам.
$10 + 7 + 20$  $49 + (1 + 7)$  $(13 + 20) + 7$

**2.** На сцэне было 20 танцораў. Пайшло 6 танцораў, а прыйшло 4. Колькі танцораў стала?

# Урок 66

!



34 + 2 = 30 + (4 + 2) = ?

30   4



34 + 20 = (30 + 20) + 4 = ?

30   4

**1.** Вылічы і растлумач.

| | | |
|---|---|---|
| 54 + 3 | 35 + 2 | 4 + 23 |
| 37 + 2 | 41 + 5 | 1 + 72 |

**2.** Вылічы і растлумач.

| | | |
|---|---|---|
| 45 + 20 | 27 + 30 | 40 + 42 |
| 30 + 33 | 50 + 14 | 64 + 10 |

**3.** Знайдзі значэнні выразаў.

| | |
|---|---|
| 38 – (29 + 1) | 14 – (17 – 9) |
| 40 + (13 – 5) | 60 – (16 – 15) |

**4.** Вымерай даўжыню адрэзкаў. Знайдзі суму іх даўжынь. Начарці адрэзкі на 2 см даўжэйшыя за дадзеныя. Знайдзі суму даўжынь гэтых адрэзкаў.



**5.** Запішы рашэнне задачы па дзеяннях і выразам.
На будоўлю прыехала 20 машын з пяском і 8 машын з гравіем. Пасля разгрузкі 4 машыны паехалі. Колькі машын засталося?

**6.** У 18 г 10 мін Міша пачаў чытаць кнігу. Калі ён прачытаў 20 старонак, яму засталося прачытаць яшчэ 10 старонак. Колькі старонак у кнізе?

**7.** Які гадзіннік паказвае час, калі Міша пачаў чытаць кнігу?



Растлумач, як выканаць складанне.

52 + 4 52 + 40

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

27 + 30 54 + 3 40 + (60 – 60)

**2.** Знайдзі колькасць камп'ютараў у трох класах, калі ў адным класе 10 камп'ютараў, у другім — столькі ж, а ў трэцім — 8 камп'ютараў.

!



34 – 2 = 30 + (4 – 2) = ?

30 4



34 – 20 = (30 – 20) + 4 = ?

30 4

**1.** Вылічы і растлумач.

26 – 3    47 – 5    97 – 6
56 – 4    98 – 3    62 – 1

**2.** Вылічы і растлумач.

57 – 20    64 – 30    82 – 50
37 – 10    99 – 40    78 – 60

**3.** Знайдзі значэнні выразаў.

42 + 5    65 – 2    76 – 4    98 – 5
42 + 50    65 – 20    89 – 50    52 – 30

**4.** Вылічы.

1 дм + 10 см    5 см + 3 дм 4 см
7 дм – 1 см    1 дм 3 см + 20 см

**5.** Ад ліку 26 аднялі задуманы лік і атрымалі лік 16. Знайдзі задуманы лік.

**6.** Складзі і рашы задачу.
1 — 4 ... .
2 — ?, на 8 ... больш.



**7.** Дапоўні ўмову гэтай задачы адказам задачы 6. Рашы задачу.
1 — 4 ... } ?
2 — ...

**8.** Мама адпрасавала 24 сурвэткі. Некалькі сурвэтак мама схавала ў шафу, а 4 сурвэткі паклала на стол. Колькі сурвэтак мама схавала ў шафу?

**9.** Назаві ў кожным радзе «лішні» лік.

| 15 | 25 | 35 | 54 | 55 | 65 | 75 |
|---|---|---|---|---|---|---|

| 31 | 32 | 33 | 34 | 35 | 63 | 37 |
|---|---|---|---|---|---|---|

? Растлумач, як выканаць адніманне.

67 – 4    67 – 40

**1.** Параўнай.
65 ? 5 + 60    53 ? 60 + 3    4 см ? 2 дм

**2.** У бак налілі 30 вёдзер вады. Колькі вёдзер вады было ў ба́ку, калі ў ім стала 48 вёдзер вады?

**!** Складзі і параўнай задачы.

1
Сліў — 3 }
Груш — 5 } ?




2
Сліў — 3 }
Груш — ? } 8




3
Сліў — ? }
Груш — 5 } 8




Задачы 2 і 3 называюцца **адваротнымі** задачы 1.

**1.** Прачытай задачу. Складзі дзве адваротныя задачы.
Бабуля спякла 5 булачак з карыцай і 8 булачак з разынкамі. Колькі ўсяго булачак спякла бабуля?




**2.** Таня і Іван рашылі задачу. Параўнай запісы іх рашэнняў. У каго запіс правільны — у Тані ці ў Івана?
Каці на ўроку фізкультуры патрэбна прабегчы 60 м. Яна прабегла 20 м хутка, а наступныя 20 м павольна. Колькі метраў засталося прабегчы Каці?

1) 60 – 20 = 40 (м)
2) 40 – 20 = 20 (м)

60 – (20 + 20) = 20 (м)

**3.** Вылічы.

64 + 3 53 + 20 89 – 5 72 – 40

**4.** Складзі выразы. Знайдзі іх значэнні.

Да сумы лікаў 25 і 3 дадай 10.

Да ліку 18 дадай суму лікаў 6 і 4.

Ад сумы лікаў 60 і 6 аднімі 5.

**5.** Пеця сфатаграфаваў вежу з кубікаў зверху. Знайдзі гэты фотаздымак.




Раскажы, як скласці адваротныя задачы.

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

68 – 30 34 + (11 – 6) 47 – (12 – 8)

**2.** Глыбіня першага калодзежа 10 м. Гэта на 3 м больш, чым глыбіня другога калодзежа. Якая глыбіня другога калодзежа?

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

6 + 9 + 4
(9 + 5) – 3
(18 + 20) – 4
59 + 40 + 1

(15 + 5) – 5
6 + 3 + 4 + 7
2 + 14 + 18 + 6
10 + 3 + 30 + 6

**2.** Складзі прыклады.

| Складаемае | 75 | 31 | ? | 25 | ? |
|---|---|---|---|---|---|
| Складаемае | 10 | ? | 6 | 40 | 20 |
| Сума | ? | 38 | 49 | ? | 71 |

**3.** Параўнай.

34 + 3 ? 30
49 + 20 ? 70

60 ? 65 + 3
90 ? 34 + 60

**4.** Якія з трох лікаў з'яўляецца сумай двух іншых, а якія два — рознасцю?

22 28 6    86 3 83    20 57 37    4 45 41

**5.** На велагонцы стартавала 95 удзельнікаў. У першы дзень сышло з дыстанцыі 5 спартсменаў, у другі дзень — 10 спартсменаў. Колькі спартсменаў засталося ўдзельнічаць у велагонцы?

**6.** Складзі адваротныя задачы.
На дыску запісана некалькі танцаў з балета «Шчаўкунчык» і 5 танцаў з балета «Лебядзінае возера». Усяго на дыску запісана 9 танцаў. Колькі танцаў з балета «Шчаўкунчык» запісана на дыску?



**7.** У наборы геаметрычных фігур 8 квадратаў, а кругоў на 2 больш. Колькі кругоў у наборы?

**8.** Дапоўні ўмову гэтай задачы адказам задачы 7. Рашы задачу.
У наборы геаметрычных фігур 8 квадратаў і … кругоў. Колькі ўсяго фігур у наборы?



**1.** Вылічы.

32 + 3 + 1    36 + 3 – 1    77 – 20 – 1

**2.** Вусень спачатку прапоўз 4 дм, а потым — 3 дм і яшчэ 3 дм. Колькі ўсяго дэцыметраў прапоўз вусень? Выразі адказ у метрах.

**!** У Тані 4 арэхі, а ў Веры на 3 арэхі больш. Колькі ўсяго арэхаў у дзяўчынак?

Таня — 4 арэхі
Вера — ?, на 3 арэхі больш } ?




Спачатку даведаемся, колькі ... .

Потым даведаемся, колькі ... .




**1.** Для рамонту купілі 20 бляшанак чырвонай фарбы, а бляшанак жоўтай фарбы — на 10 больш. Колькі ўсяго бляшанак фарбы купілі?

Ч. — 20 бляшанак
Ж. — ?, на 10 больш } ?




**2.** Складзі адваротныя задачы.
Ад кавалка дроту адрэзалі 20 дм. У ім засталося 30 дм дроту. Колькі дэцыметраў дроту было ў кавалку?

**3.** Растлумач выразы. Знайдзі іх значэнні.
Сабралі 10 шклянак чарніц і 8 шклянак маліны. З'елі 2 шклянкі ягад.

$(10 + 8) - 2$ $\qquad$ $(10 - 2) + 8$ $\qquad$ $10 + (8 - 2)$

**4.** Выпішы выразы, значэнні якіх большыя за 40.

45 + 4　　43 + 30　　74 – 40　　57 – 6

93 – 60　　49 – 10　　10 + 31　　37 + 2

**5.** Складзі выразы з дужкамі і знайдзі іх значэнні.

39 – (14 + 6)　　39 – (15 – 7)

(38 – 8) + 51　　(1 + 9) + 51

**6.** Знайдзі заканамернасць і прадоўжы рад.

| 0 | 1 | 0 | 2 | 0 | 3 | ? | ? | ? | ? | ? | ? |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

| 0 | 5 | 2 | 10 | 4 | 15 | 6 | ? | ? | ? | ? | ? |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

**7.** Віка, Ніна і Ларыса любяць шыць, вязаць і вышываць. Кожная з дзяўчынак захапляецца толькі адным з відаў рукадзелля. Віка не вяжа. Ніна не вяжа і не вышывае. Што любіць рабіць кожная дзяўчынка?

Складзі пытанні да задачы.
Было 7 ліп, а дубоў на 3 больш.

**1.** Вылічы.

64 + 2　　91 – 60 + 10　　53 – 40 – 10

**2.** Паўлу 7 гадоў. Колькі гадоў будзе Паўлу праз 3 гады? Колькі гадоў было Паўлу 3 гады назад?

На адной паліцы 6 кніг, а на другой — на 2 кнігі менш. Колькі кніг на дзвюх паліцах?

1 — 6 кніг
2 — ?, на 2 кнігі менш } ?




Спачатку даведаемся, колькі ... .

Потым даведаемся, колькі ўсяго ... .




**1.** Пеця пафарбаваў 15 м плоту, а Віця пафарбаваў на 5 м менш. Колькі метраў плоту пафарбавалі хлопчыкі разам?

Пеця — 15 м
Віця — ?, на 5 м менш } ?




**2.** Знайдзі значэнні выразаў.

| | | |
|---|---|---|
| 59 – 3 + 10 | 46 – 30 – 1 | 46 – (11 + 9) |
| 82 + 5 – 10 | 97 – 80 + 10 | (30 – 3) + 50 |

**3.** Параўнай.

30 см ? 3 дм 4 дм ? 40 см 6 дм ? 8 см

**4.** Вымерай адрэзкі. Начарці адрэзак, даўжыня якога роўная рознасці даўжынь дадзеных адрэзкаў.



**5.** Дзеці за 30 мін даехалі на веласіпедах ад дачы да возера. Потым яны 10 мін плавалі. На дарогу назад ім спатрэбілася 20 мін. Колькі мінут доўжылася прагулка?

**6.** Дзеці выехалі на прагулку ў 11 г 30 мін. Які гадзіннік паказвае час, калі дзеці прыехалі на возера?



**7.** Якія словы зашыфраваныя?

М У Р А Ш К І — ? ? ? — ? ? ? ?

6 3 9 7 2 1 4 — 9 7 1 — 7 9 1 4

Якія яшчэ словы можна скласці? Зашыфруй гэтыя словы.

Складзі пытанні да задачы.
Купілі 9 мячоў, а скакалак — на 3 менш.

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

63 – 40 + 4     76 + 2 – 50     38 – 10 – 5

**2.** У лютым было 10 пахмурных дзён, а сонечных — на 8 дзён больш. Колькі ўсяго дзён было ў лютым?

Разгледзь ломаныя.




Ломаныя складаюцца з адрэзкаў.
Адрэзкі не ляжаць на адной прамой. Канец папярэдняга адрэзка — гэта пачатак наступнага.
Кожны адрэзак — гэта **звяно ломанай**.

**1.** Знайдзі ломаныя на малюнках.







**2.** Знайдзі ломаныя. Колькі звёнаў у ломаных?




**3.** Вылічы.

13 + 40    43 + 4    70 + 8    59 – 6
7 + 40    79 – 1    65 – 10    30 + 38

**4.** Вылічы.

22 см + 4 дм    3 дм 3 см – 3 дм

10 дм – 30 см    1 м – 1 см

**5.** Знялі фільм з 20 серый. Потым знялі працяг фільма, у якім было на 5 серый менш. Колькі ўсяго серый фільма атрымалася?

**6.** Растлумач выразы.
У першым акце спектакля было задзейнічана 10 хлопчыкаў і 8 дзяўчынак. У другім акце 5 вучняў не ўдзельнічала.

(10 – 5) + 8    10 + (8 – 5)    (10 + 8) – 5

**7.** Бяроза вышэйшая за рабіну, але ніжэйшая за сасну. Растлумач схему.




Як называюцца адрэзкі, з якіх складаецца ломаная?

**1.** Вылічы.

51 + 4    28 – (50 – 40)    (83 + 5) – 70

**2.** У Бярэзінскім запаведніку Пеця зрабіў 16 фотаздымкаў зуброў, а фотаздымкаў мядзведзяў — на 6 менш. Колькі ўсяго фотаздымкаў зрабіў Пеця?



Як знайсці даўжыню ломанай?




**5 см + 3 см + 2 см = 10 см**

Каб знайсці даўжыню ломанай, патрэбна скласці даўжыні ўсіх яе звёнаў.

**1.** Знайдзі даўжыні ломаных.



**2.** Растлумач розныя спосабы рашэння задачы. Прыгатавалі 20 бутэрбродаў з каўбасой і сырам. З’елі 6 бутэрбродаў з каўбасой і 4 бутэрброды з сырам. Колькі бутэрбродаў засталося?

(20 – 6) – 4 (20 – 4) – 6 20 – (6 + 4)

**3.** Складзі адваротныя задачы.
Колькі куранят было, калі пасля таго, як купілі 5 куранят, іх стала 25?

**4.** Устаў прапушчаны лік, каб запісы былі правільныя.

72 + ? < 74      65 + ? < 67      83 – ? > 80 + 1

**5.** Складзі выразы па ўзоры. Знайдзі значэнне выразу.

(37 – 7) + 50




**6.** Выразі ў сантыметрах.

4 дм 6 см      2 дм 8 см      1 м

**7.** Сума трох лікаў роўная 80. Сума першага і другога роўная 60. Сума першага і трэцяга роўная 20. Чаму роўны самы вялікі лік?

Як знайсці даўжыню ломанай?

**1.** Складзі выразы. Знайдзі іх значэнні.

Павялічь на 40 лікі 16, 51.

Паменшы на 4 лікі 86, 64.

**2.** Кампазітар за год напісаў 5 п’ес, 10 маршаў, а песень столькі, колькі п’ес і маршаў разам. Колькі песень напісаў кампазітар за год?



$24 + 6 = 20 + (4 + 6) = ?$

20 4

**1.** Вылічы і растлумач.

47 + 3 59 + 1 64 + 6 32 + 8

**2.** Вылічы.

| Лікі | Знайдзі | |
|---|---|---|
| 39 і 10 | рознасць | суму |
| 55 і 4 | суму | рознасць |
| 43 і 20 | рознасць | суму |

**3.** Складзі выразы і знайдзі іх значэнні.







**4.** Рашы задачу рознымі спосабамі.

У аўтобусе было 38 пасажыраў. На прыпынку выйшла 5 мужчын і 3 жанчыны. Колькі пасажыраў засталося ў аўтобусе?

**5.** Складзі і рашы задачу.

1 — 10 дамоў, гэта на 2 менш
2 — ?
} ?

**6.** Запішы двухзначныя лікі, сума лічбаў якіх роўная 6. Назаві лік, у якім лік дзясяткаў на 2 больш за лік адзінак.

**7.** Знайдзі даўжыні ломаных.



**8.** Пеця разрэзаў аркуш паперы на 3 часткі. Адну з атрыманых частак ён таксама разрэзаў на 3 часткі. Колькі частак аркуша паперы атрымалася ў Пеці?

? Растлумач, як да 48 дадаць 2.

**1.** Вылічы.

47 + 30      77 + 3      (47 + 20) – 5

**2.** У заапарку 15 ваўкоў. Гэта на 5 больш, чым лісіц. Колькі ваўкоў і лісіц у заапарку?

# Урок 75



$30 - 2 = 20 + (10 - 2) =$ ?

20 10

**1.** Вылічы і растлумач.

30 – 2 50 – 6 80 – 4 70 – 5

**2.** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 40 – 8 | (57 + 3) – 2 | 20 – (16 – 8) |
| 50 – 5 | 80 – 60 + 10 | 70 + 30 – 90 |

**3.** Першы клас пасадзіў 10 ліп, другі клас — на 3 ліпы больш, чым першы. Трэці клас пасадзіў на 5 ліп больш, чым другі. Колькі ліп пасадзіў трэці клас?

1 — 10 ліп
2 — ?, на 3 ліпы больш
3 — ?, на 5 ліп больш




**4.** Знайдзі значэнні выразаў зручным спосабам.

| | | |
|---|---|---|
| 9 + 34 + 1 | 38 + 6 + 2 | 5 + 16 + 45 |
| 34 + 50 + 6 | 29 + 70 + 1 | 2 + 60 + 28 |

**5.** Устаў прапушчаныя лікі, каб запісы былі правільныя.

$4 + ? = 59$ $\quad$ $10 + ? = 87$ $\quad$ $63 - (? + 30) = 3$

$? - 6 = 71$ $\quad$ $? + 9 = 90$ $\quad$ $(15 - 8) + ? = 77$

**6.** Мастак у першы дзень пісаў партрэт 5 гадзін, а ў другі — на 1 гадзіну больш, чым у першы. У трэці дзень ён пісаў партрэт на 2 гадзіны больш, чым у другі. Колькі гадзін мастак працаваў над партрэтам у трэці дзень?

**7.** Складзі пытанне. Рашы задачу.
Віцю 10 гадоў. Дзіма на 3 гады старэйшы за Віцю. Прайшло 3 гады.

**8.** Таня прабегла 30 м, Каця — 50 м, а Сяргей — 60 м. Выберы схему, якая падыходзіць, калі 1 см абазначае 10 м дыстанцыі.







Растлумач, як ад 70 адняць 5.

**1.** Вылічы.

$30 - 7 + 1$ $\quad$ $(72 - 70) + 45$ $\quad$ $41 + 9 - 20$

**2.** Было 30 талерак. Узялі 5 вялікіх талерак і 2 маленькія. Колькі талерак засталося?

## Урок 76

**!** Разгледзь, як можна атрымаць вуглы.



Кропка



Дзве прамыя



Чатыры вуглы

Разгледзь, як можна атрымаць прамыя вуглы.







Прамыя вуглы



Непрамыя вуглы



**1.** Знайдзі прамыя вуглы, непрамыя вуглы.



**2.** Вылічы.

44 + 3 – 1      69 – 50 + 1      48 – (10 – 2)
83 + 7 – 10      70 – 2 – 10      39 – (8 + 12)

**3.** Параўнай.

17 ? 27 – 7      48 + 2 ? 48 – 2      18 ? 38 – 20
48 ? 38 + 2      75 – 5 ? 75 – 4      53 ? 50 + 5

**4.** Рашы задачу. Складзі да яе другое пытанне.
Дзеці 60 мін каталіся з гары на лыжах, а потым яшчэ 20 мін — на санках. На колькі больш часу дзеці каталіся на лыжах, чым на санках?

**5.** Для пашыву штор купілі 20 м чырвонай тканіны. Сіняй тканіны купілі на 5 м больш, чым чырвонай, а белай тканіны купілі на 10 м больш, чым сіняй. Колькі метраў белай тканіны купілі?

**?** Складзі аркуш паперы так, каб атрымаўся прамы вугал.

**1.** Вылічы.

50 – 8 + 10      (94 – 4) – 50      67 + 3 + 2

**2.** У глядзельнай зале 60 месцаў. Занялі месцы 20 хлопчыкаў і 10 дзяўчынак. Колькі свабодных месцаў засталося ў глядзельнай зале?

Колькі вуглоў у кожнай фігуры? Колькі старон? Растлумач назвы фігур.




У многавугольніка старон столькі ж, колькі і вуглоў.

**1.** Назаві фігуры. Колькі вуглоў? Колькі старон?




**2.** Вылічы.

60 – 6
90 – 3

20 + 30 – 40
100 – 60 + 10

20 – (14 – 9)
(28 + 2) – 3

**3.** Параўнай.

2 дм 8 см + 30 см ? 6 дм – 2 см
46 см + 3 дм ? 7 дм + 5 см

**4.** Сталяр адрамантаваў 20 крэсел, сталоў — на 6 больш, чым крэсел, а табурэтак — на 3 менш, чым сталоў. Колькі табурэтак адрамантаваў сталяр?

**5.** Колькі ўсяго карасёў злавілі дзеці, калі Дзіма злавіў 23 карасі, а Іван — на 3 карасі менш?

**6.** Стрэлка праведзена ад горада, дзе больш жыхароў, да горада, дзе менш жыхароў. Які горад самы вялікі? Самы маленькі?




Як называецца многавугольнік, у якога 5 вуглоў? Колькі ў яго старон?

**1.** Вылічы.

70 – 8 + 1 (92 – 90) + 54 52 + 8 – 40

**2.** На першай лініі метро 10 станцый, на другой — на 3 станцыі больш, чым на першай. На трэцяй лініі на 4 станцыі больш, чым на другой. Колькі станцый на трэцяй лініі метро?

! Знайдзі чатырохвугольнікі, у якіх усе вуглы прамыя.



**Прамавугольнік** — гэта чатырохвугольнік, у якога ўсе вуглы прамыя.

Адным колерам паказаны супрацьлеглыя стораны прамавугольніка.



Супрацьлеглыя стораны прамавугольніка роўныя.

**1.** Прачытай, як называюцца стораны прамавугольніка. Вымерай даўжыні супрацьлеглых старон.




**2.** Складзі выразы і знайдзі іх значэнні.



3. У зале музея павесілі яшчэ 4 карціны. Колькі карцін было ў зале, калі цяпер у ім знаходзіцца 30 карцін?

4. Цеплаход плыў ад аднаго порта да другога 10 г. На дарогу назад яму спатрэбілася на дзве гадзіны менш. Колькі часу спатрэбілася цеплаходу на ўсё падарожжа?

5. Няхай цеплаход адплыў у 9 г раніцы. Які гадзіннік паказвае гэты час? Які гадзіннік паказвае, а якой гадзіне цеплаход прыплыў у другі порт?



? Якія прадметы ў класе маюць прамавугольную форму?

1. Вылічы.

54 + 6  3 + 77  72 + 20  62 + (9 + 21)

2. На стаянцы было 10 машын. Колькі машын стала на стаянцы пасля таго, як ад’ехала 5 машын, а прыехала 3 машыны?



28 + 6 = (28 + 2) + 4 = ?

2 4

Разважай так:
Да ліку 28 патрэбна дадаць лік 6.
Спачатку дадаю 2, атрымліваю 30.
Потым дадаю 4, атрымліваю 34.

**1.** Вылічы і растлумач.

37 + 5     64 + 8     6 + 49     7 + 85

**2.** Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 8 + 5 | 7 + 8 | 6 + 9 | 90 – 7 |
| 18 + 5 | 17 + 8 | 16 + 9 | 80 – 6 |
| 28 + 5 | 27 + 8 | 26 + 9 | 70 – 5 |

**3.** Устаў прапушчаныя лікі, каб запісы былі правільныя.

| | |
|---|---|
| 49 = 30 + ? | 27 = ? − 3 + 3 |
| 60 = 52 + ? | 58 = 40 + ? + 8 |
| 6 = ? − 6 | 80 = ? − 5 − 5 |

**4.** На колькі лік большы або меншы за значэнне выразу?

60 і 60 − 7     31 + 8 і 40     90 і 45 + 50

**5.** У кошыку 20 баравікоў, 10 падасінавікаў, а лісічак столькі, колькі баравікоў і падасінавікаў разам. Колькі ўсяго грыбоў у кошыку?

Б. — 20
П. — 10
Л. — ?, столькі, колькі
?




**6.** Для піцы ўзялі 6 скрылікаў каўбасы, 4 скрылікі сыру, а скрылікаў перцу столькі, колькі скрылікаў каўбасы і сыру разам. Колькі ўсяго скрылікаў розных прадуктаў узялі?

**7.** Знайдзі даўжыні ломаных.



Растлумач, як знайсці суму лікаў 47 і 7.

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.
48 + 6 80 – 3 59 + (12 – 7)

**2.** У адпачынку сям'я правяла 15 дзён на дачы, а на возеры — на 5 дзён менш, чым на дачы. У горадзе сям'я правяла на 4 дні менш, чым на возеры. Колькі дзён сям'я правяла ў горадзе?



32 – 5 =(32 – 2) – 3 = ?

2 3

Разважай так:
Ад ліку 32 патрэбна адняць лік 5.
Спачатку аднімаю 2, атрымліваю 30.
Потым аднімаю 3, атрымліваю 27.

**1.** Вылічы і растлумач.

34 – 5    44 – 8    61 – 7    52 – 5

**2.** Знайдзі значэнні выразаў.

| | | |
|---|---|---|
| 11 – 6 | 4 + 7 | 2 + (50 + 8) |
| 21 – 6 | 14 + 7 | 99 – (40 + 10) |
| 31 – 6 | 24 + 7 | 100 – (11 – 7) |

**3.** У атэлье пашылі 30 мужчынскіх куртак і 20 дзіцячых куртак. Жаночых куртак пашылі столькі, колькі мужчынскіх і дзіцячых разам. Колькі ўсяго куртак пашылі ў атэлье?

**4.** Растлумач выразы.
Купілі 20 м шоўку, 30 м віскозы і 10 м паркалю.

| | | |
|---|---|---|
| 20 + 30 | 20 + 30 + 10 | (30 + 10) – 20 |
| 30 – 10 | (20 + 30) – 10 | (20 + 10) – 30 |

**5.** Якія адзінкі даўжыні падыходзяць?

Даўжыня алоўка — 15 ... .

Таўшчыня кнігі — 2 ... .

Вышыня дрэва — 30 ... .

Шырыня стала — 6 ... .

дм   см   м

**6.** Начарці два адрэзкі: адзін даўжынёй 1 дм, другі на 4 см карацейшы.

- Падзялі першы адрэзак папалам. Знайдзі даўжыню кожнай часткі адрэзка.
- Падзялі другі адрэзак на адрэзкі даўжынёй па 2 см. Колькі адрэзкаў атрымалася?

? Растлумач, як знайсці рознасць лікаў 68 і 9.

**1.** Вылічы.

| | |
|---|---|
| 30 + 4 + 6 | (38 + 7) + 10 |
| 41 – 4 – 10 | 6 дм + 26 см |

**2.** Купілі 7 шклянак клубніц і 3 шклянкі суніц. Чарніц купілі столькі шклянак, колькі шклянак клубніц і суніц разам. Колькі ўсяго шклянак ягад купілі?

# Урок 81

Знайдзі прамавугольнікі, у якіх даўжыні ўсіх старон роўныя.



**Квадрат** — гэта прамавугольнік, у якога ўсе стораны роўныя.

**1.** Вымерай стораны квадрата.



**2.** Складзі другое пытанне да задачы.
Каля прычала было 12 лодак, а ка́тараў — на 5 менш. Колькі катараў было каля прычала?

**3.** У сталовай было 20 пакетаў малака. Гэта на 4 пакеты менш, чым пакетаў з кефірам. Колькі ўсяго пакетаў з малаком і кефірам было ў сталовай?

**4.** Складзі задачы, якія рашаюцца так:

$$(21 + 5) - 8$$

**5.** Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 7 + 8 | 14 – 9 | 23 + 7 | 30 – 6 |
| 27 + 8 | 34 – 9 | 43 + 7 | 50 – 6 |
| 47 + 8 | 54 – 9 | 63 + 7 | 70 – 6 |

**6.** Устаў прапушчаныя лікі, каб запісы былі правільныя.

| | |
|---|---|
| 82 = 75 + ? | 95 = ? − 2 |
| 70 = 63 + ? | 100 = 30 + ? |
| 39 = 44 − ? | 47 = 20 + ? + 7 |

**7.** Пеця сфатаграфаваў вежу з кубікаў. Пад якім нумарам гэты фотаздымак?




Якія прадметы ў класе маюць квадратную форму?

**1.** Вылічы.

26 + 8     53 + 9     42 – 9     37 – 8

**2.** Купілі 20 мандарынаў і 7 апельсінаў. З’елі 9 фруктаў. Колькі фруктаў засталося?

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 60 – 9 | 28 + 7 | 36 + 4 | 56 – 9 |
| 40 – 7 | 87 + 8 | 3 + 77 | 82 – 7 |

**2.** Устаў прапушчаныя лікі, каб запісы былі правільныя.

| | |
|---|---|
| 52 + 6 + ? = 61 | 43 – 2 – ? = 37 |
| 62 – 3 + ? = 66 | 46 – 5 – ? = 37 |
| 69 + 5 + ? = 84 | 89 + 5 – ? = 87 |

**3.** Устаў прапушчаныя лікі, каб запісы былі правільныя.

| | |
|---|---|
| 7 дм 4 см = ? см | 1 м = ? дм |
| 10 дм = ? см | 1 дм 9 см = ? см |
| 1 м = ? см | 4 дм 4 см = ? см |

**4.** У панядзелак Міця прачытаў 20 старонак апавядання. У аўторак раніцай ён прачытаў яшчэ 10 старонак, а ў сераду дачытаў апавяданне да канца. Усяго ў апавяданні 40 старонак. Колькі старонак Міця прачытаў у сераду?

**5.** У 2 «А» класе 22 вучні. Гэта на 2 вучні больш, чым у 2 «Б» класе. Колькі вучняў у 2 «В» класе, калі іх на 3 менш, чым у 2 «Б» класе?

**6.** Назаві нумары квадратаў і прамавугольнікаў.




**7.** Прадоўжы сказы.
«Прамавугольнік — гэта чатырохвугольнік, у якога…»
«Квадрат — гэта прамавугольнік, у якога…»

**8.** Дзве каманды гулялі ў баскетбол. Першая каманда выйграла ў другой з лікам 56:30. На колькі ачкоў першая каманда набрала больш, чым другая?

**9.** Няхай дзве каманды сыгралі яшчэ раз. Цяпер другая каманда выйграла ў першай з лікам 50:30. Хто набраў больш ачкоў за дзве гульні? На колькі ачкоў больш?

**1.** Параўнай.
17 + 3 ? 80 – 60　　　49 + 2 ? 56 – 5

**2.** Рабочым трэба пафарбаваць 100 м агароджы. Да абеду яны пафарбавалі 30 м, пасля абеду — столькі ж метраў. Колькі метраў агароджы засталося пафарбаваць?



$$34 + 21 = (30 + 20) + (4 + 1) = ?$$

34 → 30, 4; 21 → 20, 1

Разважай так:
Да ліку 34 патрэбна дадаць лік 21.
Спачатку складваю дзясяткі, атрымліваю 50.
Потым складваю адзінкі, атрымліваю 5.
Да 50 дадаю 5, атрымліваю 55.

**1.** Вылічы і растлумач.

25 + 34　　52 + 16　　43 + 26

**2.** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 32 + 15 | 6 + 8 | 90 – 7 |
| 42 + 15 | 16 + 8 | 80 – 6 |
| 52 + 15 | 26 + 8 | 70 – 5 |

**3.** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 23 + (12 + 2) | 42 + (15 – 7) | (23 + 7) – 4 |
| 35 + (7 + 6) | 41 + (14 – 5) | (40 + 6) – 4 |

**4.** Па факсе ў 9 г адправілі 5 дакументаў, у 14 г — яшчэ 8 дакументаў. Засталося адправіць 10 дакументаў да 17 г 30 мін. Колькі ўсяго дакументаў адправяць за дзень?

**5.** Са збана спачатку налілі 2 шклянкі соку, а потым яшчэ 3 шклянкі соку. У збане засталося 10 шклянак соку. Колькі шклянак соку было ў збане?




**6.** Мультфільм ішоў 25 мін, а дакументальны фільм — на 12 мін больш. Колькі мінут ішоў дакументальны фільм?

**7.** Вазьмі аркуш паперы прамавугольнай формы. Як зрабіць з гэтага аркуша квадрат з дапамогай нажніц, але без лінейкі?

Растлумач, як 66 павялічыць на 22.

**1.** Складзі выразы. Знайдзі іх значэнні.

| Павяліч рознасць лікаў 50 і 4 на 8. |
|---|

| Паменшы суму лікаў 13 і 25 на 1. |
|---|

**2.** Кірылу 8 гадоў, маме 28 гадоў. Колькі гадоў тату, калі яму столькі гадоў, колькі Кірылу і маме разам?

# Урок 84



54 – 23 = (50 – 20) + (4 – 3) = ?

50 4    20 3

Разважай так:
Ад ліку 54 патрэбна адняць лік 23.
Спачатку аднімаю дзясяткі, атрымліваю 30.
Потым аднімаю адзінкі, атрымліваю 1.
Да 30 дадаю 1, атрымліваю 31.

**1.** Вылічы і растлумач.

65 – 32     48 – 26     89 – 44

**2.** Складзі выразы і знайдзі іх значэнні.

78 – → 12 + 5; 22 + 3; 31 + 12

43 – 2; 39 – 16; 54 – 32 → + 24

**3.** З 57 дм багету зрабілі рамку для нацюрморта і рамку для пейзажа. Колькі дэцыметраў багету засталося, калі для адной рамкі спатрэбілася 20 дм багету, а для другой — 14 дм?

**4.** Складзі да задачы розныя пытанні.
У аддзеле цацак было 25 мішак і 37 лялек. Прадалі 13 мішак і 15 лялек.

**5.** Складзі і рашы задачы.

1 — 15 ...
2 — 5 ...
3 — ?, столькі, колькі

?




**6.** Назаві нумары прамых і непрамых вуглоў.




**7.** Сяргей вырашыў зрабіць лесвічку з кубікаў. Колькі кубікаў ён павінен узяць, каб скласці лесвічку з 4 прыступак? з 5 прыступак?



Растлумач, як 77 паменшыць на 22.

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

17 + 22   81 + (8 + 9)   42 – (9 – 5)

**2.** У дзень нараджэння Мікіта атрымаў 6 віншаванняў ад гасцей, 20 віншаванняў па тэлефоне і 12 віншаванняў па электроннай пошце. Колькі ўсяго віншаванняў атрымаў Мікіта?

# Урок 85

Успомні: калі ад сумы адняць адно складаемае, атрымаецца другое складаемае.






6 + 5 = 11
11 – 6 = 5
11 – 5 = 6

25 + 34 = 59
59 – 34 = 25
59 – 25 = 34

Складанне можна праверыць адніманнем. Для праверкі ад сумы аднімаюць адно складаемае. Павінна атрымацца другое складаемае.

**1.** Знайдзі значэнні выразаў і выканай праверку па ўзоры.

37 + 42 = 79
79 – 42 = 37

37 + 42
46 + 23

80 + 15
37 + 40

**2.** Параўнай.

10 см ? 1 м
68 см ? 7 дм
1 м ? 6 дм + 3 дм

4 дм ? 65 см – 24 см
10 дм ? 25 см + 70 см
1 м ? 81 см + 9 см

**3.** Устаў прапушчаныя лікі, каб запісы былі правільныя.

7 + 5 + ? = 54
9 + 9 + ? = 89

9 + 2 + 30 + ? = 45
48 – 2 – 20 + ? = 28

**4.** Першая ломаная складаецца з трох звёнаў даўжынёй 4 см, 6 см і 2 см. Другая ломаная мае такую ж даўжыню. Знайдзі даўжыню другой ломанай.

**5.** Складзі і рашы задачу.




**6.** Даўжыня белай ніткі 5 дм, а чорнай ніткі — на 2 дм большая.
Пакажы на схеме іх даўжыні. Для гэтага начарці адрэзкі так, каб 1 см іх даўжыні абазначаў 1 дм даўжыні ніткі.

Закончы сказ.
«Для праверкі складання трэба ад сумы…»

**1.** Знайдзі значэнні выразаў. Выканай праверку.
32 + 35 25 + 11 65 + 15 6 + 59

**2.** Ад шланга даўжынёй 68 м спачатку адрэзалі 22 м, а потым яшчэ столькі ж метраў. Колькі метраў шланга засталося?

Чым падобныя запісы злева і справа?
Чым адрозніваюцца?

| Лікі і выразы | Роўнасці |
|---|---|
| 90 | 90 = 40 + 50 |
| 36 | 36 = 40 – 4 |
| 6 + 20 – 0 | 6 + 20 – 0 = 26 |
| (36 + 4) – 1 | (36 + 4) – 1 = 40 – 1 |

Чым падобныя роўнасці, запісаныя злева і справа? Чым адрозніваюцца?

| Правільныя роўнасці | Няправільныя роўнасці |
|---|---|
| 45 + 4 = 49 | 45 + 4 = 50 |
| 50 = 60 – 10 | 50 = 60 – 20 |
| 30 = 30 | 30 = 20 |

**1.** Выпішы спачатку выразы, а пасля роўнасці.

| | | |
|---|---|---|
| 35 + (12 + 3) | 27 – 12 = 15 | 15 + 0 |
| 35 + (12 + 3) = 50 | 27 – 12 | 15 + 5 = 20 |

**2.** Выпішы правільныя роўнасці.

45 + 4 = 49 6 + 5 = 11 27 – 7 = 0

**3.** Устаў прапушчаныя лікі, каб роўнасці сталі правільныя.

? + 8 = 40 44 + ? = 48 52 – ? = 20

**4.** Поезд ідзе з Мінска ў Маскву праз Смаленск. На шлях ад Мінска да Масквы поезду патрэбна 10 г, а на шлях ад Мінска да Смаленска — 5 г. Колькі гадзін поезд ідзе ад Смаленска да Масквы?

**5.** Складзі задачы.







**6.** Вымерай старану квадрата.
Знайдзі суму даўжынь яго старон.



**7.** Складзі з лічбаў 4, 8, 0 двухзначныя лікі так, каб лічбы ў ліку не паўтараліся. Колькі лікаў атрымалася?

? Прывядзі прыклады выразу і роўнасці.

**1.** Вылічы. Выканай праверку.
6 + 8        16 + 21        53 + 24        45 + 12

**2.** Даўжыня ломанай з двух звёнаў роўная 16 см. Даўжыня першага звяна 7 см. Знайдзі даўжыню другога звяна ломанай.



$36 + 24 = (30 + 20) + (6 + 4) =$ ?

36 → 30, 6; 24 → 20, 4

**Разважай так:**
Да ліку 36 патрэбна дадаць лік 24.
Спачатку складваю дзясяткі, атрымліваю 50.
Потым складваю адзінкі, атрымліваю 10.
Да 50 дадаю 10, атрымліваю 60.

**1.** Вылічы і растлумач.

$35 + 35$ $\quad$ $42 + 28$ $\quad$ $26 + 24$ $\quad$ $27 + 53$

**2.** Растлумач вылічэнні па ўзоры.

$36 + 64 = 100$

36 → 30, 6; 64 → 60, 4

$57 + 43$ $\quad$ $82 + 18$

$29 + 71$ $\quad$ $66 + 34$

**3.** Пастаў дужкі так, каб роўнасці былі правільныя. Прачытай роўнасці, у якіх дужкі можна не ставіць.

$30 - 7 + 3 = 26$ $\quad$ $50 - 8 + 8 = 50$

$5 + 30 - 4 = 31$ $\quad$ $46 + 7 - 5 = 48$

Часам дужкі не ўплываюць на парадак дзеянняў. Тады можна запісаць выразы па-рознаму: з дужкамі і без дужак.

**4.** Пасадзілі 20 фасолін, зярнятак кабачкоў на 5 менш, чым фасолін, а зярнятак агуркоў столькі, колькі фасолін і зярнятак кабачкоў разам. Колькі зярнятак агуркоў пасадзілі?

**5.** Тата ад дома да альтанкі робіць 30 крокаў. Кастусь да той жа альтанкі робіць на 12 крокаў больш, чым тата. Колькі крокаў павінен зрабіць Кастусь, каб дайсці ад дома да альтанкі і вярнуцца назад?

**6.** Вазьмі 3 аднолькавыя квадраты. Ці можна з гэтых квадратаў саставіць новы квадрат? Колькі квадратаў трэба ўзяць, каб атрымаўся новы квадрат?

Растлумач, як выканаць складанне.

47 + 33 63 + 37

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

27 + 33 31 + 69 (28 – 3 ) + 65

**2.** Тату 37 гадоў, а маме 32 гады. На колькі гадоў мама маладзейшая за тату? На колькі гадоў мама будзе маладзейшая за тату праз 3 гады?



$$27 + 35 = (20 + 30) + (7 + 5) = ?$$

27 → 20 7; 35 → 30 5

Разважай так:
Да ліку 27 патрэбна дадаць лік 35.
Спачатку складваю дзясяткі, атрымліваю 50.
Потым складваю адзінкі, атрымліваю 12.
Да 50 дадаю 12, атрымліваю 62.

**1.** Рашы і растлумач.

45 + 28 37 + 18 66 + 29

**2.** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 55 + 25 | 47 – 15 | 70 – (11 – 6) |
| 69 + 31 | 48 – 22 | 80 – (12 – 7) |

**3.** Вылічы. Выканай праверку.

54 + 31 48 + 7 66 + 23

**4.** Вылічы.

| | |
|---|---|
| 67 см – 20 см + 5 см | 1 м – 5 дм + 8 см |
| 80 см – 5 дм + 17 см | 1 м – 8 дм – 4 см |

**5.** Купілі 2 каробкі алоўкаў па 12 штук у кожнай і яшчэ каробку, у якой было 6 алоўкаў. Колькі ўсяго алоўкаў купілі?

**6.** Складзі адваротную задачу.
Бабуля спякла 6 піражкоў з тварагом і з бульбай. Колькі піражкоў з тварагом спякла бабуля, калі піражкоў з бульбай было 2?

**7.** Вось піражкі, што спякла бабуля.



Колькі піражкоў трэба ўзяць з заплюшчанымі вачамі, каб абавязкова з'есці хоць адзін піражок з тварагом?

**8.** Знайдзі даўжыні ломаных ліній.



Растлумач, як знайсці суму лікаў 48 і 25.

**1.** Вылічы.
26 + 36 8 + 30 – 6 78 – (25 + 3)

**2.** На стол паставілі 2 збаны з малаком, па 7 шклянак малака ў кожным. За дзень сям'я выпіла 6 шклянак малака. Колькі шклянак малака засталося?

!



27 + 35 = (27 + 30) + 5 = ?

30 5

Разважай так:
Да ліку 27 патрэбна дадаць лік 35.
Спачатку да 27 дадаю 30, атрымліваю 57.
Потым да 57 дадаю 5, атрымліваю 62.

**1.** Вылічы і растлумач.

47 + 25 (40 7, 20 5)  47 + 25 (20 5)

**2.** Вылічы двума спосабамі.

59 + 35  28 + 33  44 + 39

**3.** Параўнай.

54 – 6 ? 31 + 16  39 + 11 ? 100 – 50
25 + 38 ? 25 + 36  67 – 24 ? 67 – 26

**4.** На спаборніцтвах па шашках Віця згуляў усяго 15 разоў. Ён 7 разоў выйграў, а 4 разы прайграў. Колькі разоў Віця згуляў унічыю?

**5.** Складзі розныя пытанні.
У парку было 27 ліп, а дубоў — на 13 больш. Вясной пасадзілі яшчэ 10 ліп.

**6.** Тата пасадзіў каля дома сасну вышынёй 1 м. Вышыня дома 6 м. На колькі метраў павінна вырасці сасна, каб стаць вышэй дома на 1 м?




**7.** Стрэлка праведзена ад дрэва, якое вышэйшае, да дрэва, якое ніжэйшае. Якое дрэва самае высокае? Якія стрэлкі яшчэ можна правесці?




Растлумач два спосабы вылічэнняў.

38 + 27

**1.** Вылічы.
40 + 16    38 – 26 + 29    100 – (21 + 49)

**2.** На будоўлі працавала 36 рабочых. Днём прыйшло яшчэ 13 рабочых, а 5 рабочых перайшлі на другую будоўлю. Колькі рабочых засталося?

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

65 + 28    36 + 54    24 + 28    29 + 44

72 + 27    74 + 19    13 + 77    16 + 19

**2.** Запішы лікавыя выразы і знайдзі іх значэнні.

Лік 80 паменшы на суму лікаў 50 і 30.

Лік 40 павяліч на суму лікаў 26 і 14.

Лік 80 паменшы на рознасць лікаў 56 і 6.

**3.** Рашы задачу. Складзі адваротную задачу. Дзіма знайшоў у інтэрнэце цікавае апавяданне на 27 старонках. Калі ён раздрукаваў некалькі старонак, закончылася папера. Засталося раздрукаваць 14 старонак. Колькі старонак Дзіма паспеў раздрукаваць?

**4.** У гаспадарцы да вясенняй сяўбы падрыхтавалі 13 сеялак, а трактароў — на 5 больш. Колькі ўсяго сеялак і трактароў падрыхтавалі да сяўбы?

**5.** Сеня прынёс у дрывотню 34 палены, а дзядуля — на 3 палены менш, чым Сеня. Тата прынёс столькі пален, колькі Сеня і дзядуля разам. Колькі пален прынёс у дрывотню тата?

**6.** Пабудуй такія многавугольнікі ў сшытку. Знайдзі суму даўжынь усіх старон кожнай фігуры.



**7.** Міша начарціў дзве чырвоныя прамыя, а Вольга — дзве зялёныя. Якія вуглы ўтварыліся пры перасячэнні гэтых прамых?



**8.** Складзі з лічбаў 3, 6, 9 двухзначныя лікі. Лічбы ў ліку могуць паўтарацца. Колькі лікаў атрымалася?

**1.** Вылічы.

23 – 9 56 + 8 66 – (32 + 11)

**2.** На экскурсію ў Нясвіж паехала 14 хлопчыкаў. Дзяўчынак паехала на 6 больш, чым хлопчыкаў. Колькі дзяцей паехала на экскурсію?






11 – 5 = 6
6 + 5 = 11

59 – 34 = 25
25 + 34 = 59

Адніманне можна праверыць складаннем.
Для праверкі да атрыманай рознасці дадаюць аднімаемае.
Павінна атрымацца памяншаемае.

**1.** Вылічы і выканай праверку.

75 – 30   46 – 24   68 – 18

**2.** Устаў прапушчаныя лікі, каб роўнасці былі правільныя.

| | | |
|---|---|---|
| 4 + ? = 70 | 55 – ? = 50 | 20 + 30 + ? = 90 |
| 38 − ? = 8 | 72 + ? = 80 | 80 – 40 – ? = 10 |

**3.** Складзі па схемах лікавыя роўнасці.



**4.** На колькі гадоў Вольга старэйшая за Колю, калі ёй 15 гадоў, а Колю 12. На колькі гадоў Вольга будзе старэйшая за Колю праз 4 гады?

**5.** У кросе ўдзельнічала 35 бегуноў з нашай школы, а бегуноў з другой школы — на 6 менш. Колькі ўсяго бегуноў удзельнічала ў кросе?

**6.** Якія словы падыходзяць да кожнай фігуры?




прамавугольнік | многавугольнік | трохвугольнік

шасцівугольнік | квадрат | чатырохвугольнік

Разважай так:
Першая фігура — гэта многавугольнік, чатырохвугольнік, прамавугольнік, квадрат.

Закончы сказ.
«Для праверкі аднімання можна...»

**1.** Вылічы і выканай праверку.
47 – 20 65 – 33 76 – 60

**2.** У двух слоіках па 15 агуркоў, а ў трэцім слоіку 17 агуркоў. Колькі агуркоў у трох слоіках?

# Урок 92

Знайдзі суму даўжынь усіх старон кожнага многавугольніка.



Сума даўжынь усіх старон многавугольніка — гэта яго **перыметр**.

**1.** Знайдзі перыметр кожнай фігуры.



**2.** Знайдзі перыметр прамавугольніка і квадрата.



**3.** Вылічы і выканай праверку.

18 + 16 38 + 36 28 – 13 66 – 36

**4.** Міця падцягнуўся на турніку на 7 разоў менш за тату. Колькі разоў падцягнуўся на турніку Міця, калі тата змог падцягнуцца на турніку 14 разоў?

**5.** Знайдзі прапушчаныя лікі. Складзі роўнасці.

| Памяншаемае | 25 | ? | 44 | ? | 100 |
|---|---|---|---|---|---|
| Аднімаемае | 12 | 43 | 31 | 34 | 3 |
| Рознасць | ? | 54 | ? | 45 | ? |

**6.** Дапоўні ўмову задачы, выкарыстоўваючы схему.
Мішу трэба прабегчы … м. Ён ужо прабег … м. Колькі метраў засталося прабегчы Мішу? На колькі больш метраў яму засталося прабегчы, чым ён ужо прабег?




Закончы сказ.
«Перыметр трохвугольніка — гэта сума…»

**1.** Знайдзі значэнні выразаў і зрабі праверку.
78 – 22 59 – 30 95 – 44 59 – 3

**2.** У каробцы было 50 кавалачкаў цукру. Для чаю кожны дзень сям'я бярэ 10 кавалачкаў цукру. Колькі кавалачкаў цукру застанецца ў каробцы праз два дні?

# Урок 93

!



50 – 23 = (50 – 20) – 3 = ?

20 3

Разважай так:
Ад ліку 50 патрэбна адняць лік 23.
Спачатку ад 50 аднімаю 20, атрымліваю 30.
Потым ад 30 аднімаю 3, атрымліваю 27.

**1.** Вылічы і растлумач.

30 – 12  60 – 24  80 – 57  90 – 43

**2.** Вылічы і растлумач па ўзоры.

100 – 23 = 77

20 3

100 – 34  100 – 95
100 – 13  100 – 64

**3.** Вылічы.

62 см + 5 см – 4 см  8 дм – 20 см + 2 см
50 см – 2 дм + 24 см  45 см – 30 см + 6 см
1 м – 6 дм + 4 см  1 м – 7 дм – 1 см

**4.** Калі б у кнізе было на 15 старонак больш, у ёй было б 45 старонак. Колькі старонак у кнізе?

**5.** Складзі роўнасці па схемах.







**6.** Рашы задачу. Складзі адваротныя задачы. Карабель знаходзіўся ў марскім круізе 37 дзён. З іх 7 дзён ён стаяў у парта́х. Колькі дзён карабель плыў па моры?

**7.** Знайдзі і параўнай перыметры многавугольнікаў.





**8.** Пеця знайшоў суму двух лікаў, якія стаяць побач. Яна роўная 49. Якія лікі склаў Пеця?

Растлумач, як ад 60 адняць 11.

**1.** Вылічы. Выканай праверку.

70 – 25     36 – 12     44 + 56

**2.** Было 64 м тканіны. Колькі метраў тканіны застанецца ў кавалку, калі ад яго спачатку адрэзаць 14 м, а потым яшчэ 4 м?



$53 - 25 = (53 - 20) - 5 = ?$

(25 → 20 і 5)

Разважай так:
Ад ліку 53 патрэбна адняць лік 25.
Спачатку ад 53 аднімаю 20, атрымліваю 33.
Потым ад 33 аднімаю 5, атрымліваю 28.

**1.** Вылічы і растлумач.

43 – 25 51 – 36 72 – 47

**2.** Вылічы. Выканай праверку.

37 – 8 37 – 18 37 – 28
100 – 5 100 – 15 100 – 25

**3.** У бібліятэцы на паліцы было 26 кніг на беларускай мове і 20 кніг на рускай мове. З паліцы знялі некалькі кніг. Засталося 30 кніг. Колькі кніг знялі з паліцы?



**4.** Дзяніс і Максім павінны прабегчы па 100 м. Дзяніс ужо прабег 30 м, а Максім — 40 м. Колькі метраў засталося прабегчы кожнаму? На колькі метраў аднаму хлопчыку засталося прабегчы больш, чым другому?

**5.** Знайдзі і параўнай перыметры фігур.



**6.** Падумай, колькі лічбаў табе спатрэбіцца для запісу лікаў ад 0 да 30. Правер сваё меркаванне.

Растлумач, як 42 паменшыць на 15.

**1.** Вылічы.

81 – 13 22 + 78 48 – (7 + 6)

**2.** Коля прачытаў 15 вершаў. Гэта на 5 вершаў больш, чым прачытала Вера. Колькі вершаў прачыталі Коля і Вера разам?

**1.** Знайдзі прапушчаныя лікі. Складзі роўнасці.

| Складаемае | 63 | 33 | ? | ? | 33 |
|---|---|---|---|---|---|
| Складаемае | ? | ? | 13 | 23 | 37 |
| Сума | 90 | 85 | 51 | 100 | ? |

**2.** Параўнай.

15 – 9 ? 14 – 8
24 + 6 ? 49 – 9
2 + 34 ? 71 – 34

9 + 9 ? 42 – 24
8 + 8 ? 24 – 8
57 + 24 ? 70 + 10

**3.** Устаў знакі + або –, каб роўнасці былі правільныя.

30 ? 70 ? 0 = 100
80 ? 20 ? 40 = 100
7 ? 9 ? 13 = 3

11 ? 5 ? 12 = 4
71 ? 1 ? 35 = 35
26 ? 9 ? 5 = 30

**4.** У буфеце было 18 глыбокіх і 12 мелкіх талерак. Некалькі талерак узялі. У буфеце засталося 24 талеркі. Колькі талерак узялі з буфета?

**5.** Калі з бочкі выліць 15 вёдзер вады, у ёй застанецца 32 вядры вады. Колькі вёдзер вады ў бочцы?

**6.** Складзі пытанне. Рашы задачу.
На каруселях каталася 25 дзяцей. Потым 12 дзяцей пайшло на арэлі, а на каруселі прыйшло яшчэ 10 дзяцей.

**7.** Знайдзі перыметр прамавугольніка, квадрата і трохвугольніка. Начарці ў сшытку гэтыя фігуры.





**1.** Вылічы.
90 – 15    89 – 27    74 – 35    100 – 13

**2.** У садзе ў двух радах па 25 яблынь, а ў трэцім радзе 34 грушы. Колькі ўсяго дрэў у трох радах?

На малюнках лік 32 паказаны па-рознаму. Што абазначае адзін квадрат на малюнку злева і на малюнку справа?



Дзясяткі | Адзінкі
3 | 2



Дзясяткі | Адзінкі
3 | 2

**1.** Запішы лікі.



дзяс. | адз.



дзяс. | адз.



дзяс. | адз.

**2.** Намалюй па ўзоры.




23 55 34
43 16 60

**3.** Вылічы. Выканай праверку.

| | | |
|---|---|---|
| 47 – 9 | 100 – 47 | 27 + 19 |
| 56 – 39 | 83 – 59 | 24 + 76 |

**4.** У класе 11 дзяўчынак і 13 хлопчыкаў. З класа выйшла 7 дзяцей. Колькі дзяцей засталося?

**5.** Параўнай кароткія запісы. Складзі і рашы задачы.

1 — 32 слівы
2 — ?, на 15 сліў больш

1 — 32 слівы
2 — ?, на 15 сліў больш } ?

**6.** Устаў прапушчаныя лікі, каб запісы былі правільныя. Колькі такіх лікаў можа быць?

48 + ? < 55 100 > 95 + ?

56 – ? > 52 80 < ? – 5

**7.** Колькі жоўтых квадратаў змесціцца ў прамавугольніку?



Колькі дзясяткаў і адзінак у ліку 27? Пакажы на малюнку.

**1.** Вылічы.

33 – 27 45 – 37 36 + 29 77 + 23

**2.** У магазіне было 25 скрынак памідораў і 32 скрынкі агуркоў. К вечару засталося 30 скрынак гародніны. Колькі скрынак гародніны было прададзена за дзень?

**!**



Дзясяткі | Адзінкі

$32 + 24 = ?$

Пры складанні лікі зручна запісваць адзін пад адным, або ў слупок. Пры складанні ў слупок вылічэнні пачынаюць з адзінак.

$$\begin{array}{r} +\begin{array}{r} 32 \\ 24 \end{array} \\ \hline 56 \end{array}$$

Разважай так:

Пішу дзясяткі пад дзясяткамі, адзінкі пад адзінкамі.

Складваю адзінкі, атрымліваю 6. Пішу 6 пад адзінкамі.

Складваю дзясяткі, атрымліваю 5. Пішу 5 пад дзясяткамі.

Чытаю адказ — 56.

**1.** Вылічы і растлумач.

$$\begin{array}{r} +\begin{array}{r} 42 \\ 36 \end{array} \\ \hline ?? \end{array} \qquad \begin{array}{r} +\begin{array}{r} 57 \\ 21 \end{array} \\ \hline ?? \end{array} \qquad \begin{array}{r} +\begin{array}{r} 13 \\ 44 \end{array} \\ \hline ?? \end{array} \qquad \begin{array}{r} +\begin{array}{r} 65 \\ 22 \end{array} \\ \hline ?? \end{array}$$

**2.** Складзі выразы па схемах. Вылічы.







**3.** Было 35 тэлефонаў і 22 смартфоны. Прадалі 15 тэлефонаў. Чаго стала больш — тэлефонаў ці смартфонаў? На колькі больш?

**4.** Брат і сястра раздзялілі паміж сабой карамелькі і ірыскі. Брат узяў сабе 14 цукерак, а сястра 15 цукерак. Колькі было карамелек, калі ірысак было 9?

**5.** Даўжыня прамавугольніка 8 см, а шырыня 5 см. Знайдзі яго перыметр.

Запішы ў слупок. Вылічы.

43 + 35

**1.** Вылічы.

22 + 34 (40 + 31) – 25 66 – (27 – 18)

**2.** Ад кавалка дроту спачатку адрэзалі 22 дм, а потым яшчэ столькі ж. Засталося 56 дм дроту. Колькі дэцыметраў дроту было ў кавалку?




$45 - 23 = ?$

Пры адніманні лікі зручна запісваць адзін пад адным, або ў слупок. Пры адніманні ў слупок вылічэнні пачынаюць з адзінак.




Разважай так:
Пішу дзясяткі пад дзясяткамі, адзінкі пад адзінкамі.
Аднімаю адзінкі, атрымліваю 2. Пішу 2 пад адзінкамі.
Аднімаю дзясяткі, атрымліваю 2. Пішу 2 пад дзясяткамі.
Чытаю адказ — 22.

**1.** Вылічы і растлумач.



**2.** У шкатулцы 40 вялікіх і маленькіх гузікаў. Маленькіх гузікаў — 17. Колькі вялікіх гузікаў у шкатулцы?

**3.** Няхай у шкатулцы ляжаць толькі чырвоныя і жоўтыя гузікі. Жоўтых гузікаў 20. Ці могуць усе жоўтыя гузікі быць маленькімі? Усе маленькія быць жоўтымі?

**4.** Першы месяц лета 15 вучняў класа правядуць у летнім лагеры, 4 вучні — на дачах, а Света і Мікіта — у бабулі ў вёсцы. Колькі вучняў у класе?

**5.** Выразі ў іншых адзінках даўжыні.

10 дм = ? м  10 см = ? дм  2 дм = ? см

**?** Запішы ў слупок. Вылічы.

74 – 22

**1.** Запішы ў слупок. Вылічы.

32 + 23  56 + 31  88 – 36  54 – 31

**2.** Даўжыня ломанай з трох звёнаў 34 см. Даўжыня першага звяна 12 см. Даўжыня другога звяна 15 см. Якая даўжыня трэцяга звяна ломанай?

# Урок 99

$$37 + 23 = ?$$







Разважай так:
Пішу дзясяткі пад дзясяткамі, адзінкі пад адзінкамі. Складваю адзінкі, атрымліваю 10. Гэта 1 дзясятак. Пішу пад адзінкамі 0, а адзін дзясятак запомню і дадам да дзясяткаў.
Складваю дзясяткі, атрымліваю 5. Дадам яшчэ адзін дзясятак, атрымліваю 6. Пішу 6 пад дзясяткамі.
Чытаю адказ — 60.

**1.** Запішы ў слупок. Вылічы.

34 + 26 78 + 12 35 + 55

**2.** Паспрабуй спачатку выканаць складанне, пачынаючы з адзінак, а потым — пачынаючы з дзясяткаў. У якім парадку зручней выконваць вылічэнні? Чаму?



**3.** Андрэй скокнуў у даўжыню на 90 см, а Пеця — на 85 см. На колькі сантыметраў далей скокнуў Андрэй? Які будзе вынік у Пеці, калі ён палепшыць яго на 10 см?

**4.** Растлумач выразы.
Коля злавіў 20 акунёў і 15 карасёў, а Віця злавіў 12 акунёў і 22 карасі.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 20 + 15 | 12 + 22 | 20 + 12 | 15 + 22 |
| 20 – 15 | 22 – 12 | 20 – 12 | 22 – 15 |

**5.** Малыш і Карлсан вырашылі склеіць прамавугольнік з квадратаў. Яны ўзялі 5 квадратаў са стараной 6 см і склеілі прамавугольнік. Шырыня палоскі склейвання 1 см. Знайдзі перыметр прамавугольніка.



Чаму пры складанні лікаў 52 і 18 у слупок вылічэнні пачынаюць з адзінак?

**1.** Запішы ў слупок. Вылічы.
54 + 26 76 – 34 68 – 56

**2.** У пакеце было 35 фасолін. Пасля таго, як фасолю пасадзілі, у пакеце засталося 8 фасолін. Колькі фасолін пасадзілі?

37 + 63 = ?




Разважай так:
Пішу ... .
Складваю адзінкі ... .
Складваю дзясяткі ... .
Чытаю адказ — 100.




**1.** Запішы ў слупок. Вылічы.

47 + 53      84 + 16      69 + 31

**2.** Параўнай.

34 + 0 ? 35 – 1      39 + 16 ? 56 – 0

**3.** Якія лікі прапушчаныя? Складзі па схемах лікавыя роўнасці.






**4.** Рабочыя павінны замасціць 23 м дарожкі чырвонай пліткай і 22 м — жоўтай. Да абеду яны замасцілі пліткай 20 м. Колькі метраў дарожкі засталося замасціць пліткай?

**5.** Купілі 57 білетаў у цырк, у кіно і ў тэатр. Колькі купілі білетаў у тэатр, калі ў кіно купілі 20 білетаў, а ў цырк — 16 білетаў?

**6.** Таня нарысавала квадраты. Іх было больш, чым канцоў у дзвюх палачак, але менш, чым канцоў у дзвюх з палавінай палачак. Колькі квадратаў нарысавала Таня?

**7.** На якія дзве групы можна раздзяліць гэтыя фігуры?



Патрэбна 74 павялічыць на 26. Як выканаць вылічэнні вусна? у слупок?

**1.** Вылічы.

68 + 32      45 + 55      21 + 79      36 + 64

**2.** У магазіне было 47 футбольных і валейбольных мячоў. Прадалі 13 футбольных мячоў і столькі ж валейбольных. Колькі мячоў засталося?




37 + 25 = ?




Разважай так:

Пішу … .

Складваю адзінкі, атрымліваю 12. У ліку 12 — 1 дзясятак і 2 адзінкі. Пішу пад адзінкамі …, а адзін дзясятак запомню і … .

Складваю дзясяткі, атрымліваю 5. Дадаю яшчэ … дзясятак, атрымліваю … . Пішу … пад дзясяткамі.

Чытаю адказ — 62.

**1.** Запішы ў слупок. Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 54 + 29 | 18 + 23 | 35 + 57 | 47 + 33 |
| 29 + 36 | 36 + 12 | 48 – 17 | 71 + 29 |

**2.** Параўнай.

| | |
|---|---|
| 74 см ? 7 дм 3 см | 9 дм 9 см ? 1 м |
| 38 см ? 38 дм | 4 дм 5 см ? 5 дм 4 см |
| 9 дм ? 1 м | 90 см ? 9 дм |

**3.** На ўчастку было 5 кустоў парэчак, што на 7 кустоў менш, чым кустоў маліны. Колькі кустоў парэчак і маліны было на ўчастку?

**4.** Складзі пытанне. Рашы задачу.
У гербарыі ў Каці 30 раслін, у Іны — 12, а ў Галі — на 8 менш, чым у Каці і Іны разам.

**5.** Пеця зрабіў фотаздымак вежы. Знайдзі гэты фотаздымак.




Чаму пры складанні лікаў 35 і 29 у слупок зручней пачынаць вылічэнні з адзінак?

**1.** Вылічы.
16 + 61 17 + 53 35 + 48 66 – 24

**2.** Іван 30 мін рабіў дамашняе заданне, потым 1 г дапамагаў бабулі, а затым 10 мін глядзеў мультфільм. Колькі часу Іван патраціў на ўсе гэтыя заняткі?

**1.** Якія лікі прапушчаныя? Складзі роўнасці.

| Складаемае | 38 | ? | 14 | 15 | ? |
|---|---|---|---|---|---|
| Складаемае | 49 | 18 | ? | 50 | 36 |
| Сума | ? | 72 | 52 | ? | 74 |

**2.** Вылічы. Выканай праверку.

26 + 38 53 + 29 42 – 21 37 – 16

**3.** Запішы ў слупок. Вылічы.

58 + 32 67 + 18 85 – 44 58 – 27

**4.** Знайдзі значэнні выразаў зручным спосабам.

12 + 6 + 4 59 + 30 + 1 (25 + 40) + 15
20 + (12 + 40) 13 + (9 + 17) 36 + (4 + 14)

**5.** Вылічы.

(90 + 3) – 38 100 – (50 – 29) 80 – (19 + 26)
(31 – 27) – 4 (48 + 14) – 62 50 + (14 + 36)

**6.** Устаў прапушчаныя лікі, каб роўнасці былі правільныя.

32 + 4 + ? = 39 56 + 3 – ? = 57
77 – 2 – ? = 73 44 + 3 + ? = 48
69 – 5 – ? = 61 8 + 6 + ? = 84

**7.** Складзі выразы па схемах. Вылічы.







**8.** Параўнай.

1 м 2 дм ? 15 дм
3 дм 5 см ? 35 дм
6 дм – 20 см ? 1 м – 6 дм
90 см – 6 дм ? 1 м – 70 см

6 дм ? 6 см
10 дм ? 1 м

**9.** Якія адзінкі даўжыні падыходзяць?
Закончы сказы.

Даўжыня лаўкі 1 ... .

Рост дзяўчынкі 14 ... .

Даўжыня алоўка 15 ... .

Вышыня вольхі 20 ... .

**10.** Галя знайшла суму двух лікаў, якія стаяць побач, і атрымала 15. Якія лікі склала Галя?

**11.** Маша знайшла рознасць круглых лікаў і атрымала 10. Якія лікі магла аднімаць Маша?

**12.** На ўзлётным полі было 28 самалётаў. Потым 8 самалётаў прыляцела, а 10 паляцела. Колькі самалётаў засталося на ўзлётным полі?

**13.** Купілі карункавую стужку і тасьму. Карункавай стужкі купілі 35 дм, што на 12 дм больш, чым тасьмы. Колькі ўсяго дэцыметраў карункавай стужкі і тасьмы купілі?

**14.** У класе 23 вучні. У футбольнай секцыі займаецца 8 вучняў, у музычнай школе — 7 вучняў, астатнія вучні займаюцца ў секцыі плавання. Колькі дзяцей вучацца плаваць?

**15.** У майстэрні 16 слесараў, а токараў на 2 больш. Колькі токараў у майстэрні?

**16.** Складзі і рашы задачу.

Было — 46 ... .
Паехала — ?
Засталося — 12 і 13 ... .

**17.** Растлумач выразы.
У першай каробцы 15 алоўкаў, у другой — 20 алоўкаў, а ў трэцяй — на 20 менш, чым у першай і другой разам.

20 – 15    20 + 15    (20 + 15) – 20

**18.** Тата ў 6 г 15 мін выехаў на машыне з Мінска ў Ліду. Ён ехаў да Ліды 2 г. У Лідзе тата быў 6 г, а потым 2 г ехаў з Ліды ў Мінск. Колькі часу таты не было ў Мінску?

**19.** Які гадзіннік паказвае час, калі тата выехаў з Мінска? Прыехаў у Ліду? Выехаў з Ліды?



**20.** Знайдзі даўжыню ломанай.



**21.** Назаві фігуры. Знайдзі перыметр кожнай фігуры.



**22.** Памеры ўчастка трохвугольнай формы дадзены на рысунку. На колькі метраў даўжыня большай стараны ўчастка меншая за суму даўжынь дзвюх другіх старон?



# Урок 105

!







Разважай так:
Пішу … .
Складваю адзінкі, атрымліваю … . Пішу пад ... .
Складваю дзясяткі, атрымліваю … . Пішу пад ... .
Чытаю адказ — ... .

**1.** Запішы ў слупок. Вылічы.

50 + 12 + 24 24 + 16 + 35 31 + 27 + 42
34 + 42 + 21 63 + 15 + 12 26 + 13 + 41

**2.** Параўнай.

25 + 15 ? 50 – 15
19 – 12 ? 68 – 60
100 – 1 ? 19 + 80

31 + 32 ? 60 + 3
38 + 14 ? 60 – 7
48 – 9 ? 34 + 6

**3.** Якія лікі прапушчаныя? Складзі роўнасці.






**4.** У трох вясенніх месяцах усяго 92 дні. У сакавіку і маі па 31 дні. Колькі дзён у красавіку?

**5.** Змяні ўмову задачы так, каб яе рашэнне можна было запісаць выразам $50 - 12$.

Было 50 аркушаў чырвонай паперы, а сіняй — на 12 аркушаў больш. Колькі было аркушаў сіняй паперы?

**6.** Вымерай даўжыню і шырыню прамавугольніка. Знайдзі яго перыметр.



**7.** Начарці адрэзак, даўжыня якога роўная суме даўжынь усіх старон прамавугольніка з задання 6.

**?** Як выканаць складанне лікаў 22, 23 і 24 у слупок?

**1.** Запішы ў слупок. Вылічы.

$23 + 21 + 25$ $\qquad$ $59 - 25$ $\qquad$ $46 + 44$

**2.** Даўжыня ломанай з трох звёнаў роўная 35 см. Даўжыня першага і другога звёнаў — па 12 см. Знайдзі даўжыню трэцяга звяна ломанай.

!







Разважай так:
Пішу ... .

Аднімаю адзінкі. Ад 0 нельга адняць 6. Вазьму 1 дзясятак з разраду дзясяткаў. Каб не забыць, пастаўлю кропку над разрадам дзясяткаў. Дзясятак — гэта 10 адзінак. Ад 10 аднімаю 6, атрымліваю 4. Пішу 4 пад адзінкамі.

Аднімаю дзясяткі. Ад 4 дзясяткаў мы ўзялі 1 дзясятак. Засталося 3 дзясяткі. Ад 3 аднімаю 2, атрымліваю 1 дзясятак. Пішу 1 пад дзясяткамі. Чытаю адказ — 14.

**1.** Запішы ў слупок. Вылічы.
50 – 34    30 – 17    90 – 25    50 – 23

**2.** Паспрабуй спачатку выканаць адніманне, пачынаючы з адзінак, а потым — пачынаючы з дзясяткаў. У якім парадку зручней выконваць вылічэнні? Чаму?



**3.** У кожным радзе выберы лікі, якія падыходзяць, і складзі правільныя роўнасці.

25 29 34 38 ? + ? = ? + ?

24 37 50 63 ? – ? = ? – ?

9 18 19 46 ? – ? = ? + ?

**4.** У сталовай было 60 пакетаў з грэцкімі крупамі і рысам. Пакетаў з грэцкімі крупамі было 22. Якіх пакетаў было больш — з грэцкімі крупамі ці рысам? На колькі больш?

**5.** На вуліцы Лясной было 24 дамы. Гэта на 16 дамоў менш, чым на вуліцы Сонечнай. Колькі дамоў было на вуліцы Паркавай, калі на ёй дамоў на 8 больш, чым на Сонечнай?

**?** Чаму пры адніманні лікаў 70 і 16 у слупок зручней пачынаць вылічэнні з адзінак?

**1.** Вылічы.

60 – 34 31 + 46 + 23 23 + 19 + 11

**2.** У прэзентацыі спачатку было 12 слайдаў. Потым Міця зрабіў яшчэ 13 слайдаў, а 11 слайдаў выдаліў. Колькі слайдаў стала ў прэзентацыі?

# Урок 107




Разважай так:
Пішу ... .

Аднімаю адзінкі. Ад 2 нельга адняць 6. Вазьму 1 дзясятак з разраду дзясяткаў. Каб не забыць, пастаўлю кропку над разрадам дзясяткаў. 1 дзясятак і 2 адзінкі — гэта 12 адзінак. Ад 12 аднімаю 6, атрымліваю 6 адзінак. Пішу 6 пад адзінкамі.

Аднімаю дзясяткі. Ад 4 дзясяткаў мы ўзялі 1 дзясятак. Засталося 3 дзясяткі. Ад 3 аднімаю 2, атрымліваю 1 дзясятак. Пішу 1 пад дзясяткамі. Чытаю адказ — 16.

**1.** Вылічы.

75 – 17     33 – 29     51 – 36     44 – 18

**2.** Устаў прапушчаныя лікі, каб роўнасці былі правільныя.

38 + ? = 44     55 – ? = 29     71 = 84 – ?

52 = ? + 13     ? + 52 = 64     ? – 36 = 38

**3.** Знайдзі значэнні выразаў зручным спосабам.

15 + 14 + 25    (12 + 67) + 18

64 + 17 + 6    31 + (9 + 29)

**4.** У дзвюх кнігах 100 старонак. У адной з іх 63 старонкі. На колькі старонак у адной кнізе больш, чым у другой?

**5.** Выберы схему, якая падыходзіць да задачы. Рашы задачу.

Тата прайшоў 30 м ад дома да альтанкі. Потым 40 м ад альтанкі да калодзежа, а затым яшчэ 30 м ад калодзежа да дома. Колькі ўсяго метраў прайшоў тата?




? Растлумач, як ад 32 адняць 14.

**1.** Параўнай.

21 – 12 ? 30 – 21    82 – 34 ? 60 – 12

**2.** Знайдзі перыметр квадрата, даўжыня стараны якога роўная 15 см. Выразі рэзультат у дэцыметрах.

Чым падобныя запісы злева і справа?
Чым яны адрозніваюцца?

| Лікі і выразы | Няроўнасці |
|---|---|
| $12 + 9$ | $12 + 9 < 20$ |
| $27$ | $27 < 4 + 26$ |
| $25 + (25 - 6)$ | $25 + (25 - 6) > 25 - 6$ |

Чым падобныя няроўнасці, запісаныя злева і справа? Чым адрозніваюцца?

| Правільныя няроўнасці | Няправільныя няроўнасці |
|---|---|
| $30 < 31$ | $30 > 31$ |
| $35 + 4 < 60$ | $35 + 4 > 60$ |
| $50 > 100 - 90$ | $50 < 100 - 90$ |

**1.** Прачытай выраз, роўнасць, няроўнасць.

$35 + 20$ $\quad 64 = 60 + 4$ $\quad 10 < 64 - 50$

**2.** Выпішы правільныя няроўнасці.

$34 < 49$ $\quad 10 > 25 - 20$ $\quad 62 + 4 < 60$

$72 + (6 + 2) > 72$ $\quad 36 - (3 + 3) < 0$ $\quad 7 > 7$

**3.** Параўнай.

$51 - 18$ ? $51 - 19$ $\quad 15 + 17 + 31$ ? $31 + 17 + 15$

$38 + 41$ ? $38 + 40$ $\quad (62 + 9) + 13$ ? $(13 + 9) + 61$

**4.** Устаў прапушчаныя лікі, каб няроўнасці былі правільныя. Колькі такіх лікаў?

$? + 1 < 5$ $\qquad$ $7 - ? > 3$ $\qquad$ $10 - ? > 5$

**5.** Рашы задачу. Складзі адваротную задачу.
За адзін дзень прадалі 46 кавуноў. Колькі кавуноў засталося, калі іх было 92?

**6.** Дзяніс і тата рабілі лаўку 2 тыдні і яшчэ 2 дні. Колькі дзён яны рабілі лаўку?

**7.** У пакеце 3 чырвоныя і 3 жоўтыя яблыкі. Колькі яблыкаў трэба ўзяць з заплюшчанымі вачыма з пакета, каб абавязкова хаця б адзін яблык быў чырвоны?



Складзі правільную і няправільную няроўнасці з лікаў 15 і 2.

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

100 – 35 $\qquad$ 26 + 26 + 26 $\qquad$ (41 – 2) + 23

**2.** Колькі мінут хлопчык катаўся на веласіпедзе, калі да абеду ён катаўся 20 мін, а пасля абеду — на 20 мін больш?

# Множанне і дзяленне




**2 + 2 + 2**




**2 + 2 + 2 + 1**

Складанне аднолькавых складаемых можна замяніць новым дзеяннем — **множаннем**. Знак множання — кропка (·).

$$\mathbf{2 + 2 + 2 = 2 \cdot 3}$$

Па 2 узяць 3 разы, атрымаецца 6.

2 памножыць на 3, атрымаецца 6.

**1.** Разгледзь малюнкі. Складзі роўнасці па ўзоры. Прачытай роўнасці.



$3 + 3 = 6$
$3 \cdot 2 = 6$



**2.** Прачытай выразы. Знайдзі значэнні выразаў па ўзоры.

$4 \cdot 3 = 4 + 4 + 4 = 12$

$5 \cdot 3$ $\quad$ $3 \cdot 5$
$6 \cdot 2$ $\quad$ $2 \cdot 5$

**3.** Параўнай.

2 + 2 + 2 ? 2 · 3 3 + 3 + 3 ? 3 · 3

4 + 4 ? 4 · 3 2 + 2 + 2 + 2 ? 2 · 3

**4.** Складзі пытанне, каб задача рашалася ў два дзеянні. Рашы задачу.

У дзвюх залах 86 крэсел. У адным з іх 36 крэсел.

**5.** Лена купіла 25 сшыткаў, Жэня — на 12 сшыткаў менш, чым Лена. Колькі сшыткаў купіў Коля, калі ён купіў на 5 сшыткаў больш, чым Жэня?

**6.** У казачнага ката 2 пярэднія лапы, 2 заднія, 2 правыя і 2 левыя. Колькі лап у казачнага ката?

**?** У якім выразе можна замяніць складанне множаннем?

3 + 1 + 2 + 4 3 + 3 + 3 + 3

**1.** Запішы ў слупок. Вылічы.

56 + 29 51 – 35 34 + 28 + 12

**2.** Ганчар зрабіў для выстаўкі 12 збаноў і 15 ваз. На выстаўцы 7 яго вырабаў было прададзена. Колькі вырабаў засталося?

# Урок 110

У пенале 2 ручкі.
Колькі ручак у трох такіх пеналах?





| Ручак у пенале (шт.) | Колькасць пеналаў (шт.) | Усяго ручак (шт.) |
|---|---|---|
| 2 | 3 | ? |

Разважай так:
Для рашэння задачы патрэбна па **два** узяць **тры** разы. Значыць, трэба 2 памножыць на 3.

$2 + 2 + 2 = 6$ **(р.)** $\qquad 2 \cdot 3 = 6$ **(р.)**

**1.** Запішы рашэнне задачы складаннем і множаннем.
У альбоме 10 старонак. Колькі старонак у двух такіх альбомах?




**2.** Прачытай выразы. Знайдзі значэнні выразаў, замяніўшы множанне складаннем.

$8 \cdot 4 \qquad 6 \cdot 5 \qquad 0 \cdot 6 \qquad 1 \cdot 7$

**3.** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 25 + 37 | 43 – 17 | 64 – 48 |
| 45 + 35 | 56 + 29 | 85 – 49 |

**4.** Вылічы.

25 см + 75 см

4 дм + 6 дм

3 дм 4 см – 4 см + 6 дм 6 см

15 см + 7 дм 3 см + 12 см

**5.** У класе 6 дзяцей святкуюць дзень нараджэння вясной, столькі ж дзяцей — зімой. Усяго ў класе 24 вучні. Колькі дзяцей святкуюць дзень нараджэння ў іншыя поры года?

**6.** Колькі дзяцей могуць святкаваць дзень нараджэння ў сакавіку, красавіку, маі? Вядома, што ў кожны вясенні месяц хоць адзін вучань святкуе дзень нараджэння. Ці можа знайсціся сярод іх 5 вучняў, якія святкуюць дзень нараджэння ў маі?

Замяні складанне множаннем.

10 + 10 + 10

**1.** Вылічы, замяніўшы множанне складаннем.

7 · 2    5 · 3    4 · 4

**2.** На палубе карабля было 12 маракоў. Гэта на 2 маракі больш, чым у каютах. Колькі ўсяго маракоў было на палубе і ў каютах?

!

Множнік — Множнік — Здабытак

$$3 \cdot 4 = 12$$

$3 \cdot 4$ — Здабытак

**1.** Назаві множнікі і здабытак у кожнай роўнасці.

$4 \cdot 2 = 8$ $\qquad 5 \cdot 3 = 15$ $\qquad 10 \cdot 4 = 40$

**2.** З лікаў 3, 4 і 5 складзі ўсе здабыткі, у якіх першы множнік меншы за другі множнік. Знайдзі іх значэнні.

**3.** Параўнай.

$2 + 2$ ? $2 \cdot 3$ $\qquad 6 \cdot 3$ ? $6 + 6$

$4 \cdot 3$ ? $4 + 4 + 4$ $\qquad 7 \cdot 2$ ? $7 + 7$

**4.** Вылічы.

$30 - (13 + 13)$ $\qquad (32 + 32) - 59$ $\qquad 37 + 12 + 51$

$60 - (20 + 20)$ $\qquad (50 + 50) - 46$ $\qquad 41 - 25 + 38$

**5.** Запішы ў слупок. Вылічы.

$80 - 52$ $\qquad 33 + 38$ $\qquad 77 - 19$ $\qquad 63 + 16 + 15$

**6.** У трох бочках па 10 вёдзер вады. Колькі вёдзер вады ва ўсіх бочках?




**7.** Колькі цукерак было ў каробцы, калі пасля таго, як Дзіма і Даша з'елі па 8 цукерак, у каробцы засталося 14 цукерак?

**8.** Складзі задачу, якая рашаецца так:

1) 25 + 12 = 37 (...)
2) 25 + 37 = 62 (...)



**9.** Колькі існуе двухзначных лікаў, у запісе якіх ёсць хоць адна лічба 7?

Назаві множнікі і здабытак.

$13 \cdot 2 = 26$

**1.** Запішы ў слупок. Вылічы.
39 + 22 85 – 19 17 + 18 + 19

**2.** У кожным кабінеце 5 камп'ютараў. Колькі камп'ютараў у трох такіх кабінетах?

У якім слоіку больш соку?





Пеця вызначыў, што ў першым слоіку 5 шклянак соку, а ў другім — 7 такіх жа шклянак.

Для вымярэння і параўнання ёмкасцей сасудаў выкарыстоўваюць адзінку ёмкасці — **літр.** Літр абазначаюць так: **л**.




**1.** У адным слоіку 2 л малака. Колькі літраў малака ў чатырох такіх слоіках?




| Ёмкасць слоіка (л) | Колькасць слоікаў (шт.) | Ёмкасць усіх слоікаў (л) |
|---|---|---|
| 2 | 4 | ? |

**2.** Выберы схему. Запішы рашэнне задачы. Пасадзілі 3 рады дрэў, па 6 дрэў у кожным радзе. Колькі дрэў пасадзілі?









**3.** Складзі пытанне. Рашы задачу.
Дзеці 25 мін абедалі, потым на 5 мін менш прыбіралі цацкі. Кнігу дзеці чыталі на 10 мін больш, чым прыбіралі цацкі.

**4.** Складзі выразы і знайдзі іх значэнні.

Здабытак лікаў 5 і 3.    Множнікі 4 і 4.

**5.** Параўнай.
7 · 4 ? 7 · 2    8 · 10 ? 8 · 12    2 · 3 ? 4 · 5

**6.** Вылічы.
68 + (7 + 7)    72 – (6 + 6)    (13 + 13) – 26

**7.** Знайдзі значэнне другога выразу кожнага слупка, выкарыстоўваючы значэнне першага выразу. Растлумач.

| | | |
|---|---|---|
| 12 · 4 = 48 | 21 · 2 = 42 | 15 · 4 = 60 |
| 12 · 5 = ? | 21 · 3 = ? | 15 · 3 = ? |

Закончы сказ.
«Адзінка ёмкасці — ...»

**1.** Вылічы.
28 + 35    100 – 39    63 + 17 + 16

**2.** Тату 35 гадоў. Ён на 5 гадоў старэйшы за маму. Дзядулю столькі гадоў, колькі тату і маме разам. Колькі гадоў дзядулю?

# Урок 113

**1.** Запішы сумы і здабыткі. Знайдзі значэнні выразаў.



**2.** Вылічы, замяніўшы множанне складаннем.

$5 \cdot 2$ $5 \cdot 3$ $3 \cdot 3$ $2 \cdot 2$

$7 \cdot 2$ $2 \cdot 4$ $5 \cdot 4$ $3 \cdot 2$

**3.** Знайдзі значэнні здабыткаў, выкарыстоўваючы схему.




$6 \cdot 2$ $6 \cdot 5$ $6 \cdot 4$ $6 \cdot 10$

$6 \cdot 3$ $6 \cdot 9$ $6 \cdot 6$ $6 \cdot 12$

**4.** Вылічы.

$23 + 13$ $38 - 17$ $65 + 32 - 58$

$99 - 66$ $85 - 23$ $83 - 16 + 32$

**5.** Устаў прапушчаныя лікі так, каб няроўнасці былі правільныя. Колькі такіх лікаў?

$? + 4 < 6$ $5 + ? > 12$ $? - 4 < 5$

**6.** Устаў прапушчаныя лікі, каб роўнасці былі правільныя.

57 см = 32 см + ? см
57 см = ? см + 28 см
57 см = 21 см + ? см

69 см = ? см + 21 см
69 см = 35 см + ? см
69 см = ? см + 49 см

**7.** Купілі 2 каробкі кубікаў, па 12 кубікаў у кожнай каробцы. Колькі ўсяго кубікаў купілі?

**8.** Складзі і рашы задачу.

| Ёмкасць вядра (л) | Колькасць вёдзер (шт.) | Ёмкасць усіх вёдзер (л) |
|---|---|---|
| 8 | 3 | ? |

**9.** Купілі яблыкі, апельсіны і грушы — усяго 40 фруктаў. Каця палічыла, што купілі 24 яблыкі і апельсіны. Віця палічыў, што купілі 30 апельсінаў і груш. Колькі розных фруктаў купілі?

**1.** Вылічы, замяніўшы множанне складаннем.
$3 \cdot 5$ $4 \cdot 2$ $20 \cdot 5$ $25 \cdot 4$

**2.** Вышыня таполі 20 м, што на 4 м больш за вышыню асіны. Рабіна на 4 м ніжэйшая за асіну. Знайдзі вышыню рабіны.



Колькі разоў па 4 кубікі змяшчаецца ў 8 кубіках?

Для таго, каб даведацца, колькі разоў па чатыры змяшчаецца ў васьмі, прымяняюць новае дзеянне — **дзяленне**.
Знак дзялення — двукроп’е (**:**).

$$\mathbf{8 : 4 = 2}$$

Восем раздзяліць на чатыры атрымаецца два.

**1.** Колькі разоў па 5 змяшчаецца ў 10? Колькі разоў па 2 змяшчаецца ў 10? Растлумач з дапамогай схем.



**2.** Складзі роўнасці па малюнках.



**3.** Складзі выразы і знайдзі іх значэнні.

60, 100, 73, 59 — (– 24)

12, 57, 76, 39 — (+ 24)

**4.** Складзі і рашы задачу.



? ма́рак

**5.** Каця рабіла зарадку 15 мін. Гэта на 10 мін менш, чым тата. Колькі мінут рабіў зарадку тата?

**6.** Рабочыя адрамантавалі 3 дарожкі. Даўжыня кожнай дарожкі 10 м. Колькі ўсяго метраў дарожак адрамантавалі рабочыя?

Прачытай роўнасць.

$$8 : 4 = 2$$

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

37 + 11 + 23      51 + 32 + 9

(55 + 19) + 15      10 + (16 + 60)

**2.** З бочкі раніцай вылілі 12 л вады, а вечарам — яшчэ некалькі літраў. У бочцы засталося 20 л вады. Колькі літраў вады вылілі з бочкі вечарам, калі ў бочцы было 50 л вады?

**!** Было 6 мандарынаў. Дзецям раздалі па 2 мандарыны кожнаму. Колькі дзяцей атрымала мандарыны?



Развbooжай так:
У задачы трэба даведацца, колькі разоў па **два** ўтрымліваецца ў **шасці**.
Значыць, патрэбна 6 раздзяліць на 2.

**6 : 2 = 3**

**1.** Знайдзі адказ з дапамогай схемы. Запішы рашэнне.
Мама расставіла 10 руж у вазы, па 5 руж у кожную вазу. Колькі ваз спатрэбілася?



**2.** Складзі роўнасці па ўзоры.



6 : 2 = 3



**3.** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 14 – 2 + 14 | 26 + 2 – 14 | 42 – (8 + 16) |
| 2 + 9 – 4 | 12 + 19 – 14 | 55 + (23 – 14) |

**4.** Устаў прапушчаныя лічбы.

$$\begin{array}{r} 2* \\ +\;*3 \\ \hline 89 \end{array} \qquad \begin{array}{r} *7 \\ +\;5* \\ \hline 98 \end{array} \qquad \begin{array}{r} 7* \\ -\;*2 \\ \hline 34 \end{array} \qquad \begin{array}{r} *4 \\ -\;2* \\ \hline 71 \end{array}$$

**5.** На амлет для сям'і патрэбна ўзяць 4 яйкі. Колькі яек спатрэбіцца для 3 такіх амлетаў?

**6.** Даўжыня сіняга адрэзка 1 дм 2 см. Даўжыня чырвонага адрэзка на 4 см меншая за даўжыню сіняга, а зялёнага — на 2 см большая за даўжыню чырвонага. Знайдзі даўжыню чырвонага адрэзка, зялёнага адрэзка.

**7.** Начарці адрэзкі, даўжыні якіх ты знайшоў у задачы 6. Раздзялі кожны з іх на адрэзкі па 2 см кожны. Колькі адрэзкаў атрымалася?

**?** Складзі прыклад на дзяленне па схеме:



**1.** Вылічы.

5 · 2 6 · 3 61 + 19 27 – 8

**2.** У ломанай 3 звяны. Даўжыня першага звяна ломанай 3 дм. Даўжыня другога звяна — на 3 см меншая. Даўжыня трэцяга такая ж, як даўжыня другога звяна. Знайдзі даўжыню ломанай.

!

Было 6 мандарынаў. Іх раздалі 3 дзецям, пароўну кожнаму дзіцяці. Колькі мандарынаў атрымала кожнае дзіця?



Разважай так:
Бяру 3 мандарыны і раздаю па аднаму кожнаму дзіцяці. Потым бяру яшчэ 3 мандарыны і раздаю па аднаму кожнаму дзіцяці.

У задачы патрэбна даведацца, колькі разоў па **тры** змяшчаецца ў шасці. Значыць, патрэбна 6 раздзяліць на 3.

**6 : 3 = 2**

**1.** Пабудуй схему. Запішы рашэнне задачы.
Было 8 салдацікаў. Іх раздалі 2 хлопчыкам пароўну. Колькі салдацікаў атрымаў кожны?

**2.** Складзі і рашы задачу.

| Ёмкасць збана (л) | Колькасць збаноў (шт.) | Ёмкасць усіх збаноў (л) |
|---|---|---|
| 3 | 4 | ? |

**3.** Устаў прапушчаныя лікі, каб роўнасці былі правільныя.

48 + ? = 90　　73 – ? = 58　　41 = 78 – ?

? + 25 = 66　　? + 34 = 81　　28 = ? – 72

**4.** Ад рулона тканіны адрэзалі 2 разы па 24 м. Пасля гэтага ў рулоне засталося столькі метраў, колькі адрэзалі. Колькі метраў тканіны было ў рулоне?

**5.** Рашы задачу. Змяні лікі ва ўмове задачы так, каб можна было атрымаць адказ без вылічэнняў.
На першай паліцы было 15 кніг. На другой паліцы было на 6 кніг больш, чым на першай. На трэцяй паліцы — на 5 кніг менш, чым на другой. Колькі кніг на трэцяй паліцы?

**?** Як раздзяліць 8 арэхаў пароўну паміж дзвюма дзяўчынкамі?

**1.** Вылічы, замяніўшы множанне складаннем.

$6 \cdot 2$　　$5 \cdot 3$　　$6 \cdot 3$　　$5 \cdot 4$

**2.** Над ровам лятала 28 ластавак. Прыляцела яшчэ некалькі ластавак, і іх стала 50. Колькі ластавак прыляцела?

**1.** Складзі па малюнку дзве задачы на дзяленне.



**2.** Пабудуй схемы. Рашы задачы.

Было 8 літраў варэння. Яго разлілі ў слоікі па 2 літры. Колькі слоікаў спатрэбілася?

Было 8 літраў варэння. Яго разлілі ў 2 слоікі пароўну. Колькі літраў варэння атрымалася ў кожным слоіку?

**3.** Складзі роўнасці па ўзоры. Растлумач.

$2 \cdot 6 = 12$
$12 : 2 = 6$
$12 : 6 = 2$



**4.** Пабудуй схемы па ўзоры. Вылічы.



$2 \cdot 3 + 2 = 2 \cdot 4 = 8$

$4 \cdot 2 + 4$ $\quad$ $3 \cdot 3 + 3$
$2 \cdot 4 + 2$ $\quad$ $5 \cdot 2 + 5$

**5.** Знайдзі значэнне другога выразу кожнага слупка, выкарыстоўваючы значэнне першага выразу. Растлумач.

| | | |
|---|---|---|
| $2 \cdot 4 = 8$ | $10 \cdot 2 = 20$ | $12 \cdot 5 = 60$ |
| $2 \cdot 5 =$ ? | $10 \cdot 3 =$ ? | $12 \cdot 4 =$ ? |

**6.** Устаў прапушчаныя лікі, каб роўнасці былі правільныя.

| | | |
|---|---|---|
| 64 + ? = 100 | 100 – ? = 27 | 22 = 55 – ? |
| ? – 36 = 64 | ? + 38 = 100 | 70 = ? + 5 |

**7.** За кожную гадзіну смоўж прапаўзаў па сцяжынцы 23 см. Ён поўз 3 гадзіны. Колькі сантыметраў прапоўз смоўж за гэты час?






**8.** Няхай смоўж пасля 3 гадзін руху павярнуў назад і за чацвёртую гадзіну прапоўз яшчэ 23 см. Колькі сантыметраў трэба яшчэ прапаўзці смаўжу, каб вярнуцца на ранейшае месца?



**1.** Пабудуй схемы. Вылічы.

$3 \cdot 4 + 3$ $\qquad$ $2 \cdot 5 + 2$

**2.** Восем турыстаў хочуць сесці па чатыры ў кожную лодку. Колькі спатрэбіцца лодак?

!

Дзялімае — Дзельнік — Дзель

**12 : 3 = 4**

Дзель

1. Назаві дзялімае, дзельнік і дзель.
   6 : 2 = 3    8 : 2 = 4    10 : 5 = 2    9 : 3 = 3

2. Вылічы з дапамогай схемы.




| Множнік | 3 | 3 | 3 | 3 | 3 |
|---|---|---|---|---|---|
| Множнік | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |

| Дзялімае | 9 | 12 | 15 | 18 | 21 |
|---|---|---|---|---|---|
| Дзялімае | 3 | 3 | 3 | 3 | 3 |

3. Запішы здабыткі і дзелі, выкарыстоўваючы дадзеныя лікі.
   5 10 2    3 6 2    4 8 2    3 9 3

4. Вылічы.

$$+\begin{array}{r}57\\ \underline{19}\end{array}\qquad +\begin{array}{r}32\\ \underline{48}\end{array}\qquad -\begin{array}{r}61\\ \underline{24}\end{array}\qquad -\begin{array}{r}60\\ \underline{43}\end{array}\qquad +\begin{array}{r}47\\ \underline{37}\end{array}$$

**5.** Пабудуй схемы. Рашы задачы.

У машыне змяшчаецца 4 пасажыры і вадзіцель. Колькі чалавек змяшчаецца ў 2 машынах?

Мама раздзяліла 9 сушак пароўну паміж 3 дзецьмі. Колькі сушак атрымала кожнае дзіця?

**6.** Складзі і рашы задачу.

Матэматыка — 32 падручнікі
Беларуская мова — ?, на 2 менш
Чалавек і свет — **?**, на 4 больш

**7.** Знайдзі перыметр кожнай фігуры.



Назаві дзялімае, дзельнік, дзель.

20 : 5 = 4

**1.** Вылічы.

2 · 2 6 · 2 14 : 2 6 : 2

**2.** Згатавалі 14 л варэння і разлілі ў 7 слоікаў, пароўну ў кожны слоік. Колькі літраў варэння налілі ў кожны слоік?

**1.** Замяні сумы лікаў здабыткамі.

$2 + 2 + 2 + 2 + 2 + 2$ $\qquad$ $4 + 4$

$3 + 3 + 3 + 3 + 3$ $\qquad$ $5 + 5 + 5$

**2.** Замяні здабыткі лікаў сумамі.

$2 \cdot 3$ $\qquad$ $3 \cdot 4$ $\qquad$ $2 \cdot 4$ $\qquad$ $3 \cdot 5$

**3.** Складзі роўнасці па ўзоры. Растлумач.



$5 \cdot 2 = 10$

$2 \cdot 5 = 10$

$10 : 2 = 5$

$10 : 5 = 2$

1



2



3



4



**4.** Складзі роўнасці.

Дзялімае 15, дзельнік 3. Дзель 5.

Множнікі 3 і 2. Здабытак 6.

Дзель лікаў 8 і 4 роўна ліку 2.

Здабытак лікаў 4 і 3 роўны ліку 12.

**5.** Вылічы.

$(24 + 16) - 17$ $\qquad$ 32 см + 4 дм 1 см

$20 - 16 + 38$ $\qquad$ 5 дм 2 см – 37 см

**6.** Запішы рашэнне задачы складаннем і множаннем.
Мама купіла 3 каробкі яек, па дзясятку яек у кожнай. Колькі ўсяго яек купіла мама?

**7.** Пабудуй схему. Запішы рашэнне задач.

Дзяўчынкам раздалі 12 арэхаў, па 3 арэхі кожнай. Колькі дзяўчынак атрымалі арэхі?

Раздалі 12 арэхаў 4 хлопчыкам пароўну. Колькі арэхаў атрымаў кожны хлопчык?

**8.** Вымерай старану квадрата. Знайдзі перыметр квадрата. Запішы рашэнне складаннем і множаннем.



**9.** Запішы па малюнку здабыткі і дзелі лікаў.



**1.** Пабудуй схемы. Вылічы.
$8 \cdot 2 - 8$ $\quad$ $5 \cdot 4 + 5$ $\quad$ $2 \cdot 6 - 2$

**2.** У атэлье было 90 м тканіны. На сукенкі зрасходавалі 25 м тканіны, а на блузкі — 36 м тканіны. Колькі метраў тканіны засталося?

$2 \cdot 2 =$ ?

$2 + 2$



$2 \cdot 3 =$ ?

$2 \cdot 2 + 2$





Растлумач роўнасці. Запомні.

$2 \cdot 2 = 4$

$2 \cdot 3 = 6$

$2 \cdot 4 = 8$

$2 \cdot 5 = 10$



**1.** Складзі выразы. Вылічы.

| Множнік | 2 | 2 | 2 | 2 |
|---|---|---|---|---|
| Множнік | 2 | 5 | 4 | 3 |

**2.** Параўнай.

$2 + 2 + 2 + 2 + 2$ ? $2 \cdot 4$

$2 \cdot 6$ ? $2 + 2 + 2 + 2 + 2$

$2 \cdot 3$ ? $2 \cdot 4$

$2 \cdot 5$ ? $2 \cdot 4$

**3.** Устаў прапушчаныя лічбы.

$$\begin{array}{r} 4\ast \\ +\ \ast 7 \\ \hline 90 \end{array} \qquad \begin{array}{r} \ast 3 \\ +\ 2\ast \\ \hline 51 \end{array} \qquad \begin{array}{r} 4\ast \\ -\ \ast 6 \\ \hline 14 \end{array} \qquad \begin{array}{r} \ast 2 \\ -\ 3\ast \\ \hline 47 \end{array}$$

**4.** Таўшчыня кнігі 2 см. Знайдзі вышыню стоса з чатырох такіх кніг, з трох такіх кніг.

**5.** Пабудуй схему. Складзі і рашы задачу.

| Персікаў на 1 талерцы | Колькасць талерак | Усяго персікаў |
|---|---|---|
| 2 | 5 | ? |

**6.** Колькі многавугольнікаў намалявана? Колькі вуглоў і старон мае кожны многавугольнік? Як называюцца гэтыя многавугольнікі?



**7.** Знайдзі «лішні» лік.

40 50 55 60 70 80 90

19 28 37 46 55 64 63

**?** Значэнне якога выразу большае? На колькі большае?

$2 \cdot 5$ $2 \cdot 4$

**1.** Вылічы.

$2 \cdot 4 + 2$ $2 \cdot 2 + 20$ $2 \cdot 5 - 2$

**2.** Прынеслі 2 вядры вады, па 10 л у кожным вядры, і яшчэ 13 л. Колькі ўсяго літраў вады прынеслі?

!

$\frac{2 \cdot 6 = ?}{2 \cdot 5 + 2}$



$\frac{2 \cdot 7 = ?}{2 \cdot 6 + 2}$





Растлумач роўнасці. Запомні.

$2 \cdot 6 = 12$

$2 \cdot 7 = 14$

$2 \cdot 8 = 16$

$2 \cdot 9 = 18$



**1.** Складзі выразы. Вылічы.

| Множнік | 2 | 2 | 2 | 2 |
|---|---|---|---|---|
| Множнік | 7 | 9 | 6 | 8 |

**2.** Складзі выразы па схемах і знайдзі іх значэнні.










**3.** За кожную гадзі́ну рыба́к лавіў па 2 рыбкі. Колькі ры́бак ён злавіў за 7 гадзін?

**4.** Дапоўні ўмову. Рашы задачу.
У панядзелак у бібліятэцы ўзялі … кніг пра жывёл і … кніг казак. Праз тыдзень 14 кніг вярнулі ў бібліятэку. Колькі кніг засталося вярнуць у бібліятэку?

**5.** З кавалка дроту даўжынёй 12 см патрэбна зрабіць квадратную рамку. Якой будзе даўжыня адной стараны рамкі?

**6.** З таго ж кавалка дроту патрэбна зрабіць трохвугольнік з роўнымі даўжынямі старон. Падумай, большай ці меншай будзе даўжыня стараны гэтага трохвугольніка. Правер сваё меркаванне.

**?** На колькі значэнне выразу $2 \cdot 6$ большае, чым значэнне выразу $2 \cdot 5$?

**1.** Вылічы.
$2 \cdot 2 + 6$ $\quad$ $2 \cdot 6 + 18$ $\quad$ $2 \cdot 8 - 8$

**2.** Колькі колаў у пяці двухколавых веласіпедаў? У пяці трохколавых веласіпедаў?

Колькі ўсяго алоўкаў?



У кожнай каробцы
па 2 алоўкі.
$2 + 2 + 2 = 6$
$2 \cdot 3 = 6$

Усяго 3 сінія
і 3 чырвоныя алоўкі.
$3 + 3 = 6$
$3 \cdot 2 = 6$

Запомні **перамяшчальную ўласцівасць** множання.

Ад перастаноўкі множнікаў здабытак
не змяняецца.

**1.** Складзі роўнасці па ўзоры.

$3 \cdot 5 = 15$
$5 \cdot 3 = 15$



1 

2 

**2.** Параўнай.

| | | |
|---|---|---|
| $2 \cdot 3$ ? $3 \cdot 2$ | $2 \cdot 7$ ? $7 \cdot 3$ | $5 \cdot 2$ ? $2 + 5$ |
| $2 \cdot 8$ ? $8 \cdot 2$ | $5 \cdot 3$ ? $4 \cdot 5$ | $3 \cdot 4$ ? $4 + 3$ |

**3.** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| $2 \cdot 6 – 7$ | $5 \cdot 2 – 10$ | $2 \cdot 2 + 34$ |
| $6 \cdot 2 + 8$ | $2 \cdot 8 + 25$ | $7 \cdot 2 + 44$ |

**4.** Каб пашыць сукенку, патрэбна купіць 2 м тканіны. Колькі тканіны патрэбна купіць, каб пашыць 7 такіх сукенак?

**5.** Лодцы неабходна праплыць да берага 30 м, а потым вярнуцца тым жа шляхам назад. Лодка ўжо праплыла 20 м. Колькі метраў засталося плыць лодцы?

**6.** Складзі задачу са словамі «ехаў 25 мін», «ехаў на 5 мін больш», «ехаў на 10 мін менш». Рашы задачу.




? Закончы сказ.
«Ад перастаноўкі множнікаў...»

**1.** Вылічы.

$2 \cdot 6 + 88$ $7 \cdot 2 + 36$ $(100 - 47) + 29$

**2.** У рускім алфавіце 33 літары. Гэта на 7 літар больш, чым у англійскім алфавіце. Колькі літар у англійскім алфавіце?

!

$4 \cdot 2 = ?$

$4 \cdot 2 = 2 \cdot 4$



$8 \cdot 2 = ?$

$8 \cdot 2 = 2 \cdot 8$





Растлумач роўнасці. Запомні.

$3 \cdot 2 = 6$

$4 \cdot 2 = 8$

$5 \cdot 2 = 10$

$6 \cdot 2 = 12$

$7 \cdot 2 = 14$

$8 \cdot 2 = 16$

$9 \cdot 2 = 18$

**1.** Запішы здабыткі лікаў. Знайдзі іх значэнні.

3 2    8 2    6 2    5 2    9 2

**2.** Складзі выразы. Вылічы.

| Множнік | 7 | 2 | 6 | 2 |
|---|---|---|---|---|
| Множнік | 2 | 9 | 2 | 8 |

**3.** Складзі задачы, якія рашаюцца так:

$2 \cdot 5 = 10$    $5 \cdot 2 = 10$    $10 : 2 = 5$

**4.** Пабудуй схему. Рашы задачу.
Гаспадыня разліла 9 л малака ў слоікі, па 3 л у кожны слоік. Колькі слоікаў спатрэбілася?

**5.** На даху сядзела 20 галубоў. Колькі галубоў стала на даху пасля таго, як 5 галубоў паляцела, а потым прыляцела 12 галубоў?

**6.** Начарці такія фігуры ў сшытку. Раздзялі кожную фігуру з дапамогай адрэзка на два чатырохвугольнікі.



? Прачытай рознымі спосабамі.

$8 \cdot 2 = 16$

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

$5 \cdot 2 + 30$ $\quad$ $6 \cdot 2 + 3$ $\quad$ $9 \cdot 2 + 32$

**2.** У кожным пакеце па 10 цукерак. Колькі цукерак у 4 такіх пакетах?

!



Колькі ўсяго кубікаў? $3 \cdot 2 = 6$

Колькі кубікаў у адной каробцы? $6 : 2 = 3$

Колькі каробак? $6 : 3 = 2$

Калі здабытак двух множнікаў раздзяліць на адзін з іх, то атрымаецца другі множнік.

**1.** Растлумач па малюнку роўнасці.



$2 \cdot 9 = 18$ $\quad 18 : 2 = 9$

$9 \cdot 2 = 18$ $\quad 18 : 9 = 2$

**2.** Складзі два прыклады на множанне і два прыклады на дзяленне па малюнках.

 

**3.** Параўнай.

$14 \cdot 2$ ? $14 + 14 + 14$ $\quad$ $10 \cdot 5$ ? $4 \cdot 10$

$11 \cdot 4$ ? $3 \cdot 11$ $\quad$ $10 \cdot 2$ ? $2 \cdot 10$

**4.** Якіх лікаў не хапае? Складзі роўнасці.

| 50 | |
|---|---|
| 14 | ? |
| ? | 28 |
| 33 | ? |

| 90 | |
|---|---|
| 29 | ? |
| ? | 41 |
| 58 | ? |

| 100 | |
|---|---|
| ? | 28 |
| 45 | ? |
| ? | 62 |

**5.** За 1 дзень папугай можа вывучыць 2 словы. Колькі слоў можа вывучыць папугай за тыдзень?

**6.** У аповесці 62 старонкі. Міла чытала аповесць 2 дні, па 12 старонак кожны дзень. Колькі старонак аповесці засталося прачытаць Міле?

**7.** Даўжыня прамавугольніка роўная 6 см. Гэта на 4 см больш, чым яго шырыня. Знайдзі перыметр прамавугольніка.

? Знайдзі значэнні выразаў.

$7 \cdot 2$ $\qquad$ $14 : 7$ $\qquad$ $14 : 2$

**1.** Вылічы.

$2 \cdot 4$ $\qquad$ $4 \cdot 2$ $\qquad$ $8 : 4$ $\qquad$ $8 : 2$

**2.** Сыну, тату і дзядулю разам 100 гадоў. Сыну — 4 гады, тату — 30 гадоў. Колькі гадоў дзядулю?

!

$10 : 2 = ?$
$5 \cdot 2 = 10$

$16 : 8 = ?$
$2 \cdot 8 = 16$



Растлумач роўнасці. Запомні.

| | | |
|---|---|---|
| $2 \cdot 2 = 4$ | $4 : 2 = 2$ | |
| $2 \cdot 3 = 6$ | $6 : 2 = 3$ | $6 : 3 = 2$ |
| $2 \cdot 4 = 8$ | $8 : 2 = 4$ | $8 : 4 = 2$ |
| $2 \cdot 5 = 10$ | $10 : 2 = 5$ | $10 : 5 = 2$ |
| $2 \cdot 6 = 12$ | $12 : 2 = 6$ | $12 : 6 = 2$ |
| $2 \cdot 7 = 14$ | $14 : 2 = 7$ | $14 : 7 = 2$ |
| $2 \cdot 8 = 16$ | $16 : 2 = 8$ | $16 : 8 = 2$ |
| $2 \cdot 9 = 18$ | $18 : 2 = 9$ | $18 : 9 = 2$ |

**1.** Знайдзі дзель лікаў.

| Дзялімае | 8 | 8 | 12 | 12 | 18 | 18 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Дзельнік | 2 | 4 | 2 | 6 | 2 | 9 |

**2.** Які з трох лікаў з'яўляецца здабыткам двух іншых? Якія два лікі з трох — дзеллю? Складзі роўнасці.

| 14 | 7 | 2 |
|---|---|---|

| 2 | 9 | 18 |
|---|---|---|

| 5 | 2 | 10 |
|---|---|---|

| 16 | 8 | 2 |
|---|---|---|

**3.** Якія лікі прапушчаны?

Дзель лікаў 18 і 2 меншая за лік 16 на ? .

Здабытак лікаў 2 і ? роўны дзелі лікаў 16 і 2.

**4.** У тыдні 5 рабочых дзён. Колькі рабочых дзён у 3 тыднях?

**5.** З вядра ёмкасцю 10 л малако пералілі ў двухлітровыя слоікі. Колькі слоікаў спатрэбілася?

**6.** Знайдзі перыметр фігуры.



Закончы сказы.
«14 раздзяліць на 2, атрымаецца ...»
«16 раздзяліць на 8, атрымаецца ...»

**1.** Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 6 : 2 | 10 : 5 | $2 \cdot 8$ | 16 : 2 |
| 8 : 4 | 6 : 2 | $9 \cdot 2$ | 18 : 9 |

**2.** У класе 9 парт. Колькі вучняў у класе, калі за кожнай партай сядзіць па 2 вучні?

1. Прачытай роўнасці рознымі спосабамі.

$16 : 2 = 8$ $8 : 4 = 2$ $2 \cdot 6 = 12$ $7 \cdot 2 = 14$

2. Якія лікі ў гэтым радзе лікаў дзеляцца на 2? Якія лікі не дзеляцца на 2?

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

3. Складзі выразы і знайдзі іх значэнні.

| Лікі | Знайдзі |
|---|---|
| 2 і 6 | здабытак |
| 2 і 6 | суму |
| 6 і 2 | рознасць |
| 6 і 2 | дзель |

| Лікі | Знайдзі |
|---|---|
| 8 і 2 | здабытак |
| 2 і 9 | суму |
| 10 і 2 | рознасць |
| 16 і 2 | дзель |

4. Вылічы.

$14 : 2 + 14$ $2 \cdot 9 - 4$ $38 + 17 + 3 + 12$

5. Калі дзеці памыюць 6 кубкаў, то ім застанецца памыць на 6 кубкаў больш. Колькі ўсяго кубкаў патрэбна памыць?

6. Станок-аўтамат адну дэталь вырабляе за 2 мін. Колькі такіх дэталей ён зробіць за 10 мін?

**7.** Выберы схему. Рашы задачу.
Каця аддала 2 цукеркі Насці, і ў дзяўчынак стала цукерак пароўну. У каго з дзяўчынак цукерак было больш? На колькі больш?







**8.** Параўнай.

$2 \cdot 5$ ? $4 \cdot 2$ $\qquad$ $12 : 2$ ? $16 : 2$

$2 \cdot 6$ ? $6 \cdot 2$ $\qquad$ $2 \cdot 2 + 2$ ? $2 \cdot 4 - 2$

$2 \cdot 8$ ? $9 \cdot 2$ $\qquad$ $3 \cdot 2 + 4$ ? $2 \cdot 3 + 4$

**9.** Колькі прамых вуглоў? Колькі непрамых вуглоў?






**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

$7 \cdot 2 + 13$ $\qquad$ $8 : 2 + 26$ $\qquad$ $14 : 7 + 5$

**2.** Міша вучыцца ў музычнай школе. Ён іграе на піяніна кожны дзень па 2 г. Колькі гадзін у тыдзень Міша іграе на піяніна?

# Урок 127

**1.** Складзі роўнасці па ўзоры.

$2 \cdot 5 = 10$ $\quad$ $10 : 2 = 5$

$5 \cdot 2 = 10$ $\quad$ $10 : 5 = 2$

| · | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 2 | 4 | 6 | 8 | 10 | 12 | 14 | 16 | 18 |

**2.** Складзі выразы і знайдзі іх значэнні.




**3.** Устаў прапушчаныя лікі, каб роўнасці былі правільныя.

$7 \cdot ? = 14$ $\qquad$ $2 \cdot ? = 10$ $\qquad$ $? \cdot 6 = 12$

$? : 2 = 4$ $\qquad$ $8 : ? = 2$ $\qquad$ $14 : ? = 7$

**4.** Маршрутнае таксі ідзе ад Мінска да Ліды 2 г. Колькі часу спатрэбіцца таксі, каб праехаць ад Мінска да Ліды, вярнуцца ў Мінск і зноў даехаць да Ліды?

**5.** Ці можна з драўлянай планкі даўжынёй 1 м зрабіць прамавугольную рамку для фотаздымка, калі даўжыні старон рамкі роўныя 30 см і 10 см?

**6.** На малюнках 1 см абазначае 1 дм. Выберы малюнак, які падыходзіць да задачы 5.




**7.** Выберы схему. Рашы задачу.
У альбоме каляровых фотаздымкаў на 5 больш, чым чорна-белых. У альбоме размясцілі яшчэ 9 чорна-белых фотаздымкаў. Якіх фотаздымкаў стала больш? На колькі больш?







**1.** Вылічы.

$10 : 2 + 14$ $\qquad$ $61 - 12 - 8$

$2 \cdot 7 - \ \ 6$ $\qquad$ $61 - (12 - 8)$

**2.** На прагулку 18 вучняў пайшлі парамі. Колькі атрымалася пар?

!

$$\frac{3 \cdot 4 = ?}{3 \cdot 3 + 3} \qquad \frac{4 \cdot 3 = ?}{4 \cdot 3 = 3 \cdot 4}$$







Растлумач роўнасці. Запомні.

| | |
|---|---|
| $3 \cdot 3 = 9$ | |
| $3 \cdot 4 = 12$ | $4 \cdot 3 = 12$ |
| $3 \cdot 5 = 15$ | $5 \cdot 3 = 15$ |

**1.** Якія лікі прапушчаны?




**2.** Знайдзі здабытак лікаў.

| Множнік | 3 | 3 | 3 | 3 |
|---|---|---|---|---|
| Множнік | 2 | 5 | 3 | 4 |

**3.** Знайдзі значэнні выразаў у кожным слупку, выкарыстоўваючы ўжо вядомыя значэнні выразаў.

| | | |
|---|---|---|
| $3 \cdot 2 = 6$ | $3 \cdot 5 = 15$ | $3 \cdot 6 = 18$ |
| $3 \cdot 3 = ?$ | $3 \cdot 4 = ?$ | $3 \cdot 7 = ?$ |
| $3 \cdot 4 = ?$ | $3 \cdot 3 = ?$ | $3 \cdot 8 = ?$ |
| $3 \cdot 5 = ?$ | $3 \cdot 2 = ?$ | $3 \cdot 9 = ?$ |

**4.** Параўнай.

$3 \cdot 5$ ? $5 \cdot 2$ $3 \cdot 4$ ? $6 \cdot 2$ $3 \cdot 2 + 3$ ? $3 \cdot 3$

$3 \cdot 2$ ? $2 \cdot 3$ $12 : 2$ ? $3 \cdot 2$ $2 \cdot 3 + 2$ ? $2 \cdot 4$

**5.** Колькі прамавугольнікаў і колькі кругоў патрэбна выразаць, каб атрымалася 3 такія машынкі?



**6.** У парку пасадзілі 16 ліп і столькі ж клёнаў, астатнія — бярозы. Усяго пасадзілі 50 дрэў. Колькі бяроз пасадзілі?

**7.** Якой даўжыні могуць быць стораны прамавугольніка, перыметр якога роўны 16 см?

**?** Знайдзі значэнні выразаў.

$3 \cdot 4$ $4 \cdot 3$

**1.** Вылічы.

$3 \cdot 5$ $5 \cdot 3$ $3 \cdot 5 + 3$

**2.** Даўжыня прамавугольніка 16 см, а шырыня 14 см. Знайдзі перыметр гэтага прамавугольніка.

# Урок 129

$3 \cdot 6 = ?$

$3 \cdot 5 + 3$



$6 \cdot 3 = ?$

$6 \cdot 3 = 3 \cdot 6$





Растлумач роўнасці. Запомні.

| | |
|---|---|
| $3 \cdot 6 = 18$ | $6 \cdot 3 = 18$ |
| $3 \cdot 7 = 21$ | $7 \cdot 3 = 21$ |
| $3 \cdot 8 = 24$ | $8 \cdot 3 = 24$ |
| $3 \cdot 9 = 27$ | $9 \cdot 3 = 27$ |

**1.** Знайдзі здабытак лікаў.

| Множнік | 3 | 3 | 3 | 3 |
|---|---|---|---|---|
| Множнік | 7 | 9 | 6 | 8 |

**2.** Вылічы.

$3 \cdot 8$ $\quad$ $3 \cdot 5$ $\quad$ $16 : 2 + 32$ $\quad$ $3 \cdot 2 + 24$

$9 \cdot 3$ $\quad$ $6 \cdot 3$ $\quad$ $2 \cdot 9 + 50$ $\quad$ $2 \cdot 2 \cdot 3$

**3.** Устаў прапушчаныя лікі, каб роўнасці былі правільныя.

$3 \cdot 5 = ? + 1$ $\quad$ $7 \cdot 3 = 23 - ?$ $\quad$ $16 : 2 = 5 + ?$

$6 \cdot 3 = 20 - ?$ $\quad$ $3 \cdot 3 = ? + 6$ $\quad$ $18 : 2 = 7 + ?$

**4.** Тата заліў у бак аўтамабіля 15 л бензіну, і бак запоўніўся. Колькі літраў бензіну было ў ба́ку, калі ёмкасць бензабака 50 л?

**5.** Каб пафарбаваць адну сцяну залы квадратнай формы, маляру патрэбна 3 аднолькавыя бляшанкі фарбы. Колькі такіх бляшанак фарбы спатрэбіцца маляру для афарбоўкі чатырох сцен гэтай залы, калі ў зале 1 сцяна з акном і на яе афарбоўку расходуецца на 1 бляшанку фарбы менш?

**6.** Маляр хоча пафарбаваць кожную сцяну залы іншым колерам. У яго ёсць вось такія фарбы:



Колькі магчымых спосабаў афарбаваць усе сцены ёсць у маляра?

? Знайдзі значэнні выразаў.

$3 \cdot 8$ $8 \cdot 3$

**1.** Вылічы.

$3 \cdot 4$ $8 \cdot 3$ $14 : 2$ $3 \cdot 9 + 17$

**2.** Двум хлопчыкам раздалі 14 цукерак, пароўну кожнаму. Колькі цукерак атрымаў кожны хлопчык?

!

$\underline{15 : 3 = ?}$ | $\underline{24 : 8 = ?}$
$5 \cdot 3 = 15$ | $3 \cdot 8 = 24$



Растлумач роўнасці. Запомні.

| | | |
|---|---|---|
| $3 \cdot 3 = 9$ | $9 : 3 = 3$ | |
| $3 \cdot 4 = 12$ | $12 : 3 = 4$ | $12 : 4 = 3$ |
| $3 \cdot 5 = 15$ | $15 : 3 = 5$ | $15 : 5 = 3$ |
| $3 \cdot 6 = 18$ | $18 : 3 = 6$ | $18 : 6 = 3$ |
| $3 \cdot 7 = 21$ | $21 : 3 = 7$ | $21 : 7 = 3$ |
| $3 \cdot 8 = 24$ | $24 : 3 = 8$ | $24 : 8 = 3$ |
| $3 \cdot 9 = 27$ | $27 : 3 = 9$ | $27 : 9 = 3$ |

**1.** Знайдзі дзель лікаў.

| Дзялімае | 9 | 8 | 12 | 18 | 24 | 15 | 21 | 27 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Дзельнік | 3 | 4 | 3 | 6 | 8 | 5 | 3 | 3 |

**2.** Які з трох лікаў з'яўляецца здабыткам двух іншых? Якія два лікі з трох — дзеллю? Складзі адпаведныя роўнасці.

27 9 3 | 3 7 21 | 8 3 24 | 5 3 15

**3.** Устаў прапушчаныя лікі, каб роўнасці былі правільныя.

$7 \cdot ? = 21$ $8 \cdot ? = 24$ $? \cdot 6 = 18$

$15 : ? = 3$ $24 : ? = 3$ $? \cdot 3 = 27$

**4.** За кожную гадзіну Дзіма паспявае з'ехаць з гары на лыжах 3 разы. Колькі разоў Дзіма зможа з'ехаць з гары за 4 гадзіны?

**5.** Фільм пра жывёл ішоў 25 мін, а рэкламны ролік — на 20 мін менш. Колькі часу патраціў тата на іх прагляд?

**6.** Пеця зрабіў фотаздымак вежы зверху. Знайдзі гэты фотаздымак.




Знайдзі значэнні выразаў.

$24 : 3$ $24 : 8$

**1.** Вылічы.

$3 \cdot 7 + 21$ $3 \cdot 4 - 5$ $24 : 3 + 42$

**2.** Бабуля з 18 маткоў нітак звязала шалікі. На кожны шалік яна расходавала па 3 маткі нітак. Колькі шалікаў звязала бабуля?

**1.** Запішы здабыткі і дзелі.

| · | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 2 | 4 | 6 | 8 | 10 | 12 | 14 | 16 | 18 |
| 3 | 6 | 9 | 12 | 15 | 18 | 21 | 24 | 27 |

**2.** Вылічы.

12 : 3 + 4　　27 : 3 – 6　　24 : 3 + 16
12 : 4 + 5　　27 : 9 + 16　　18 : 3 – 0
24 : 3 : 2　　18 : 3 : 2　　12 : 3 : 2

**3.** Складзі выразы і знайдзі іх значэнні.

Дзель лікаў 18 і 3 павялічыць на 6.

Здабытак лікаў 6 і 2 раздзяліць на 3.

Здабытак лікаў 3 і 7 паменшыць на 6.

Дзель лікаў 24 і 3 памножыць на 2.

**4.** Устаў прапушчаныя лікі, каб няроўнасці былі правільныя. Колькі такіх лікаў можна знайсці?

3 · 7 > ?　　8 · 3 < ?　　24 : 3 > 4 + ?

**5.** У школьным буфеце 6 хлопчыкаў купілі па 3 булачкі. Колькі ўсяго булачак купілі хлопчыкі?

**6.** Складзі пытанне.
Рашы задачу.
Ёмкасць вядра 3 л. Гэтым вядром налілі ў бочку 24 л вады.

**7.** Няхай ёмкасць вядра будзе 6 л. Падумай, больш ці менш спатрэбіцца вёдзер, каб наліць 24 л вады.

**8.** Вылічы.

$$\begin{array}{r} 61 \\ +\,24 \\ \hline ?? \end{array} \quad \begin{array}{r} 57 \\ +\,19 \\ \hline ?? \end{array} \quad \begin{array}{r} 37 \\ +\,43 \\ \hline ?? \end{array} \quad \begin{array}{r} 48 \\ +\,38 \\ \hline ?? \end{array}$$

$$\begin{array}{r} 48 \\ -\,23 \\ \hline ?? \end{array} \quad \begin{array}{r} 50 \\ -\,29 \\ \hline ?? \end{array} \quad \begin{array}{r} 67 \\ -\,38 \\ \hline ?? \end{array} \quad \begin{array}{r} 73 \\ -\,45 \\ \hline ?? \end{array}$$

**1.** Вылічы.
18 : 2 18 : 3 18 : 9 18 : 6

**2.** Знайдзі, колькі ўсяго піражкоў з капустай і з тварагом спякла бабуля, калі з капустай было 15 піражкоў, а з тварагом на 7 піражкоў больш.

## Паўтарэнне за 2 клас

**1.** Назаві адназначныя і двухзначныя лікі. Павяліч двухзначныя лікі на 1.

6 35 16 8 90 77 1 3 28 29

**2.** Запішы лікі ў выглядзе сумы разрадных складаемых.

49 27 38 84 67 52

**3.** Параўнай.

4 дзяс. ? 4 адз. 5 дзяс. 8 адз. ? 5 дзяс. 4 адз.
10 адз. ? 1 дзяс. 7 дзяс. 1 адз. ? 7 дзяс. 2 адз.

**4.** Вылічы.

(72 – 2) + 4 (50 + 10) – 1 1 + (100 – 80)
(61 + 1) + 10 (40 – 40) + 4 70 – (43 – 3)

**5.** Вылічы.

3 · 7 24 : 3 3 · 4 – 5 12 : 4 + 3
3 · 9 21 : 3 5 · 3 + 16 18 : 6 – 3

**6.** Устаў прапушчаныя лікі, каб роўнасці былі правільныя.

32 + ? = 39 56 + 3 – ? = 57
77 – ? = 73 44 + 3 + ? = 48

**7.** Устаў прапушчаныя лікі, каб роўнасці былі правільныя.

7 · ? = 21    ? · 6 = 18    15 : ? = 3
8 · ? = 24    ? : 3 = 9    24 : ? = 3

**8.** Устаў прапушчаныя лічбы.




**9.** Тату 35 гадоў, а маме 29 гадоў. На колькі гадоў мама маладзейшая за тату?

**10.** У баку машыны 53 л бензіну. Для паездкі ад дома да дачы патрэбна 8 л бензіну, а для таго, каб потым з’ездзіць на рыбалку — яшчэ 5 л. Колькі літраў бензіну застанецца ў баку пасля паездак?

**11.** Для вучняў купілі 37 білетаў у кіно, а білетаў у цырк на 8 больш. Колькі ўсяго білетаў купілі вучням?

**12.** За кожную гадзіну бабуля можа звязаць 9 см шаліка. Колькі сантыметраў шаліка можа звязаць бабуля за 3 гадзіны?

**13.** Выберы схему. Рашы задачу.
На юбілей маме падарылі 25 руж. Некалькі руж мама паставіла ў вазу ў гасцінай, а 9 руж — у спальні. У мамы засталося яшчэ 5 руж. Колькі руж мама паставіла ў гасцінай?










**14.** У садзе было 15 шпакоў. Прыляцела 17 шпакоў, а паляцела 11. Колькі шпакоў стала ў садзе?

**15.** Мама разлажыла 16 тэфтэляў у талеркі, па 2 тэфтэлі ў кожную талерку. Колькі талерак спатрэбілася?

**16.** На спартыўным свяце 24 спартсмены раздзяліліся на 3 каманды пароўну. Колькі спартсменаў аказалася ў кожнай камандзе?

**17.** Знайдзі даўжыню ломанай.



**18.** Колькі прамых вуглоў? Колькі непрамых вуглоў?




**19.** Назаві фігуры. Знайдзі перыметр фігур.




**20.** Даўжыня першай стараны трохвугольніка 8 см, другой — столькі ж сантыметраў. Знайдзі даўжыню трэцяй стараны, калі перыметр трохвугольніка 20 см.

**21.** Шырыня прамавугольніка 10 см. Гэта на 14 см менш, чым яго даўжыня. Знайдзі перыметр прамавугольніка. Выразі рэзультат у дэцыметрах і сантыметрах.

**22.** Які час паказваюць гадзіннікі?



## Гэта цікава!

### Што такое літр?




Людзям часта даводзілася параўноўваць ёмкасць сасудаў і адмяраць, колькі вадкасці ў іх змяшчаецца. Напрыклад, у якім вядры змесціцца больш вады? У якім слоіку змесціцца больш малака? Для таго каб такое параўнанне было зручным, у Францыі пачалі выкарыстоўваць мерку — **літр**.

Цяпер літр як меру ёмкасці выкарыстоўваюць ў розных краінах.

### Што такое цотныя і няцотныя лікі?

Некаторыя лікі дзеляцца на 2. Гэта, напрыклад, такія лікі, як 4, 8, 12, 16 і многія іншыя.

У матэматыцы такія лікі называюць **цотнымі**.

Некаторыя лікі не дзеляцца на 2. Гэта, напрыклад, такія лікі, як 5, 9, 13, 17 і іншыя. У матэматыцы такія лікі называюць **няцотнымі**.



**Мураўёва, Г. Л.**
М91 Матэматыка : вучэб. дапам. для 2-га кл. установ агул. сярэд. адукацыі з беларус. мовай навучання. У 2 ч. Ч. 2. / Г. Л. Мураўёва, М. А. Урбан. — Мінск : Нац. ін-т адукацыі, 2012. — 144 с. : іл.
ISBN 978-985-559-076-8.

**УДК 51(075.2=161.3)**
**ББК 22.1я71**

Вучэбнае выданне

**Мураўёва** Галіна Леанідаўна
**Урбан** Марыя Анатольеўна

**МАТЭМАТЫКА**

Вучэбны дапаможнік для 2 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

У дзвюх частках

Частка 2

Нач. рэдакцыйна-выдавецкага аддзела *Г. І. Бандарэнка*
Рэдактар *Л. Ф. Леўкіна*
Мастак *І. В. Лазерка*
Мастацкі рэдактар *І. А. Усенка*
Камп'ютарная вёрстка *Ю. М. Галавейкі*
Карэктары *Л. А. Міснікевіч, К. В. Шобік*

Падпісана ў друк 01.08.2012. Фармат 70×90/16. Папера афсетная.
Друк афсетны. Ум. друк. арк. 10,53. Ул.-выд. арк. 4,35 + 0,47 форз.
Тыраж 7600 экз. Заказ

Навукова-метадычная ўстанова «Нацыянальны інстытут адукацыі»
Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.
ЛИ № 02330/0494469 ад 08.04.2009. Вул. Караля, 16, 220004, г. Мінск

ААТ «Паліграфкамбінат імя Якуба Коласа»
ЛП №02330/0150496 ад 11.03.2009. Вул. Чырвоная, 23, 220600, г. Мінск

(Назва і нумар установы агульнай сярэдняй адукацыі)

| Навучальны год | Імя і прозвішча вучня | Стан вучэбнага дапаможніка пры атрыманні | Адзнака вучню за карыстанне вучэбным дапаможнікам |
|---|---|---|---|
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |